ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 6 (2637) • Пятніца, 9 лютага 1973 года • Цана 8 кап.

ПЯЦІГОДКА, ГОД ТРЭЦІ, РАШАЮЧЫ...

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





Пётр Карпіловіч — кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга. Гэтую высокую ўзнагароду ён атрымаў за выдатную працу. Вось ужо каторы год Пётр выходзіць пераможцам у сацыялістычным спаборніцтве рабочых афсетнага цэха Мінскага паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа.

Гэты здымак нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука зроблены ў адну з хвілін напружанага працоўнага дня. Пётр Карпіловіч (злева) са сваім памочнікам Мікалаем Вяршынай і прыёмшчыцай Таццянай Гаркавай.



5 лютага ў Доме творчасці пісьменнікаў імя Я. Коласа пачаўся дванаццацідзённы семінар кінасцэнарыстаў. На яго запрошаны 25 маладых беларускіх аўтараў, якія спрабуюць свае сілы ў новым для іх жанры — кіно. Вядомыя савецкія кінадраматургі Міхаіл Блейман, Юлій Дунскі, Валерый Фрыд, Георгій Палонскі, Вадзім Трунін дапамагаюць ім у рабоце над сцэнарыямі. Для слухачоў семінара чытаюцца таксама лекцыі аб сучасных праблемах навукі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, аб навінах савецкага і замежнага кіно.

На здымку — група ўдзельнікаў і кіраўнікоў семінара.

Фота Ул. КРУКА.

# ВІНШУЕМ ПЕРАМОЖЦАЎ

□

Загадам міністра культуры СССР К. Фурцавай падведзены вынікі Усесаюзнага агляду паркаў культуры і адпачынку, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР. Звыш 1 200 паркаў краіны ўдзельнічалі ў гэтым творчым спаборніцтве.

Аргкамітэт па правядзенню Усесаюзнага агляду паркаў культуры і адпачынку пастанавіў занесці ў Кнігу гонару пераможцаў агляду, узнагародзіўшы іх дыпломамі і ганаровымі вымпеламі. Сярод пераможцаў — 10 паркаў нашай рэспублікі: Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага (Мінск), парк імя А. Луначарскага (Гомель), парк культуры «Мазурына» (Віцебск), паркі імя Чэлюскінцаў і імя 50-годдзя Кастрычніка (Мінск), паркі ў Брэсце, Бабруйску, Барысаве, Пінску і Лідзе.

Прызам Міністэрства культуры СССР узнагароджаны Мінскі парк імя 50-годдзя Кастрычніка. Дыпломам за лепшае тэатралізаванае свята «Дарогай славы бацькоў» атрымаў Віцебскі парк культуры і адпачынку «Мазурына». Дыпломам адзначана танцавальная зала Мінскага парку імя Чэлюскінцаў.

Ганаровую грамату і прыз ЦК ВЛКСМ атрымалі парк культуры і адпачынку імя Ленінскага камсамола (Орша) і Цэнтральны дзіцячы парк у Мінску.

Дыплом першай ступені і прэміі ДТСААФ СССР прысуджаны парку культуры і адпачынку ў Полацку.

Праўленне Усесаюзнага таварыства «Веды» адзначыла граматай змястоўную і разнастайную лекцыйную работу Гомельскага парку.

Вялікая група работнікаў паркаў культуры і адпачынку Беларусі ўзнагароджана граматамі, памятнымі медалямі ўсесаюзнага агляду і каштоўнымі падарункамі. Памятны медаль рэдакцыі газеты «Известия» прысуджаны дырэктару Цэнтральнага дзіцячага парку імя М. Горкага П. Якіменку.

□

Рэспубліканскі конкурс на лепшую песню быў прысвечаны слаўнай даце—50-годдзю ўтварэння СССР. На конкурс было прадстаўлена 18 песень кампазітараў-аматараў з Віцебска, Маладзечна, Касцюковіч, Нясвіжа, Пінска, Стаўбцоў, Чавус, Шклова і іншых гарадоў і раённых цэнтраў рэспублікі. Песні ўслаўляюць нашу Радзіму, партыю, братнюю дружбу паміж народамі, мірную і стваральную працу савецкіх людзей.

Журы прызнала лепшымі тры песні: кампазітара В. Еўстратава і паэта А. Астрэйкі «Мая Беларусь», кампазітара М. Рыўкіна і паэта А. Русака «Застольная», кампазітара К. Кабашова і паэта І. Васілеўскага «Ніцыя вербы Хатыні».

□

Конкурс на лепшы сцэнарый для сельскіх агітбрыгад праводзіўся Рэспубліканскім домам народнай творчасці разам з ЦК ЛКСМ Беларусі і рэдакцыяй «Сельской газеты». Журы разгледзела 7 сцэнарыяў. Заахвочвальнымі прэміямі адзначаны сцэнарыі метадыста Карэліцкага раённага дома культуры М. Дулуба «Каравай» і журналіста з Касцюковіч С. Пацёмкіна «Чаму ж нам не пець».

# УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ Ў КОНКУРСЕ!

*Летась Міністэрства культуры і Саюз пісьменнікаў БССР аб'явілі конкурс на лепшыя шматактовыя і аднаактовыя п'есы, сцэнарыі, апавяданні, фельетоны для агітацыйна-мастацкіх брыгад на атэістычную тэму.*

*Міністэрства культуры і Саюз пісьменнікаў БССР вырашылі прадоўжыць конкурс да верасня 1973 года.*

**На конкурс прымаюцца творы, якія не ішлі на сцэнах, не друкаваліся, не перадаваліся па тэлебачанні і радыё.**

**Творы падаюцца на конкурс на беларускай ці рускай мовах у двух экземплярах, надрукаваных на машынцы. Рукапісы дасылайце ў канвертах з указаннем імя і прозвішча аўтара, прафесіі, месца работы, хатняга адрасу.**

Для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены прэміі. За лепшую шматактовую п'есу: першая прэмія— 1000 рублёў, другая — 500 рублёў, дзве трэція — па 300 і дзве заахвочвальныя прэміі па 100 рублёў. За аднаактовую п'есу: першая прэмія — 500 рублёў, другая — 300 рублёў, дзве трэція па 200 рублёў і дзве заахвочвальныя па 75 рублёў. За сцэнарый для агітацыйна-мастацкіх брыгад: першая прэмія — 400 рублёў, другая — 250 рублёў, дзве трэція па 150 рублёў. За апавяданне: першая прэмія—300 рублёў, другая —200 рублёў, дзве трэція па 150 рублёў. За фельетон: першая прэмія — 200 рублёў, другая—150 рублёў, дзве трэція па 100 рублёў.

*Рукапісы накіроўваць па адрасу Мінск, Дом урада, Міністэрства культуры БССР — з адзнакай: «Конкурс на атэістычную тэму».*

# ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ ВЫДАННІ ПРА ГЕРОЯЎ

*У кніжныя магазіны паступілі маляўнічыя буклеты серыі «Героі Брэсцкай крэпасці». Падрыхтаваныя навуковымі супрацоўнікамі музея мемарыяльнага комплексу крэпасці-героя, гэтыя дакументальныя выданні расказваюць пра былога камандзіра 44-га стралковага палка Героя Савецкага Саюза Пятра Міхайлавіча Гаўрылава, былога начальніка 9-й пагранзаставы Героя Савецкага Саюза Андрэя Мітрафанавіча Кіжаватава, кіраўніка абароны цытадэлі Івана Мікалаевіча Зубачова, палкавога камісара Яфіма Майсеевіча Фаміна і іншых слаўных сыноў Радзімы, неўміручы подзвіг якіх будзе жыць у вяках.*

*Буклеты патрыятычнай серыі выдала студыя «Фота і жыццё» Саюза журналістаў БССР.*

Ул. ВАЛОДЗІН.

# НА СЦЭНЕ І НА ЭКРАНЕ...

**Заслужаны артыст БССР, лаўрэат усесаюзнага і міжнароднага конкурсаў Віктар Вуячыч заваяваў сімпатыі і прызнанне не толькі ў нашай краіне. Яму апладзіравалі ў Канадзе і Югаславіі, Чылі і ГДР, Бангладэш і Румыніі.**

**Нядаўна ў Рэспубліканскім доме мастацтваў адбыўся творчы вечар папулярнага спевака.**

**З прывітальным словам да яго звярнулася народная артыстка СССР Л. П. Александроўская. Аб творчым шляху В. Вуячыча расказаў галоўны рэжысёр Беларускай філармоніі заслужаны артыст БССР Ю. Ужынцаў.**

**...У зале гасне святло. На экране Віктар Вуячыч. Гучыць песня кампазітара В. Баснера «З чаго пачынаецца Радзіма». І вось Віктар Вуячыч як бы сыходзіць з экрана на сцэну. Гучыць «Песня аб Мінску» Ул. Алоўнікава. Затым выконваюцца песні І. Дунаеўскага, І. Лучанка, А. Бабаджаняна, М. Тарывердзіева, Я. Фрэнкеля і іншых папулярных кампазітараў. У заключэнне Віктар Вуячыч адказаў на пытанні прысутных.**



Дваццаць пяты па ліку кніжны магазін адкрыўся ў Мінску. Яго адрас — вуліца Якуба Коласа, 127. Універсальны магазін мае грамадска-палітычны, мастацкі, тэхнічны, дзіцячы аддзелы, а таксама аддзел школьна-пісьмовых прылад.

Гэты здымак зроблены ў дзіцячым аддзеле ў дзень адкрыцця.

Фота Ул. КРУКА.

# ГОСЦІ ЧАШНІКАЎ

Некалькі дзён у Чашніках па запрашэнні раённага аддзялення таварыства «Веды» гасцямі аматараў кіно былі кіназнаўца В. Нячай і рэжысёр В. Дашук. Іх дарога прайшла праз раённы цэнтр Чашнікі, пасёлак Новалукомль, вёску Чарэя. Яны выступалі там у дамах культуры і кінатэатрах, сустракаліся з рабочымі, калгаснікамі, навучэнцамі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, школьнікамі. В. Нячай расказвала пра гісторыю беларускага кіно, знаёміла слухачоў з найбольш цікавымі работамі студыі «Беларусьфільм», падрабязна спынялася на дакументальных стужках, якія ствараюцца на аб'яднанні «Летапіс».

Вялікую цікавасць выклікаў расказ В. Дашука пра яго фільмы, якія прысутныя тут жа маглі паглядзець.

# ПРАПАГАНДЫСТЫ ПРЫГОЖАГА

АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ савета садзеяння народным універсітэтам культуры пры Міністэрстве культуры БССР. Была заслухана справаздача намесніка начальніка Віцебскага абласнога ўпраўлення культуры М. Шматкова.

— На Віцебшчыне, — сказаў ён, — працуе 36 універсітэтаў культуры і іх філіялаў, якія наведвае звыш 6 тысяч слухачоў. Праведзен двухдзённы семінар рэктараў народных універсітэтаў вобласці. На пасяджэнні савета абласнога ўпраўлення культуры абмеркавана работа Лепельскага універсітэта культуры і яго філіялаў у калгасе імя Калініна і саўгасе «Лепельскі».

У кожным горадзе і раённым цэнтры вобласці працуюць універсітэты з філіяламі ў калгасах, саўгасах і навучальных установах. Найбольш актыўна заняткі ідуць на факультэтах музыкі і літаратуры.

Сярод лепшых — універсітэт пры Віцебскім музычным вучылішчы (рэктар Я. Палішчук), які працуе ўжо многа год. Зладжанасцю ў рабоце вызначаецца універсітэт у Міёрах (рэктар А. Капітанаў). Заўсёды перапоўненая зала на занятках універсітэта, які працуе пры тэатры імя Я. Коласа. Лекцыі чытаюць вядучыя акцёры і рэжысёры, паказваюцца спектаклі, наладжваецца іх абмеркаванне. Філіялы гэтага універсітэта працуюць у Полацку і Наваполацку.

Аднак мы яшчэ не дамагліся таго, заначае М. Шматкоў, каб кожны наш універсітэт меў пастаянны склад слухачоў. Гэта асабліва датычыць Расонскага, Гарадоцкага, Ушацкага універсітэтаў культуры. Не ўсе універсітэты маюць абанементы. Ёсць вялікая неабходнасць у тым, каб музычныя факультэты мелі грамзапісы лепшых твораў савецкіх кампазітараў, у тым ліку і беларускіх.

У дапамогу універсітэтам культуры распрацаваны рэкамендацыйныя спісы літаратуры. Абласная бібліятэка разаслала іх ва ўсе раённыя і гарадскія бібліятэкі.

Універсітэты культуры чуйна адгукаюцца на важнейшыя падзеі ў жыцці нашага народа. Зараз на чарговых занятках пачынаецца вывучэнне даклада Л. І. Брэжнева «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік».

Валянціна Патапчук — бібліятэкарка аддзела мастацтва Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна расказала аб рабоце універсітэтаў культуры ў Полацку і Полацкім раёне.

З 1966 года працуе універсітэт культуры пры педвучылішчы імя Ф. Скарыны. Адбылося ўжо тры выпускі. Курс яго лекцый праслухала 465 чалавек. Сёлета на факультэтах музыкі, літаратуры і эстэтыкі займаецца 120 чалавек.

11 год універсітэту пры Полацкім гарадскім доме культуры. Заняткі на факультэце літаратуры наведваюць рабочыя «Полацксельбуда». На музычным факультэце займаюцца навучэнцы двух прафесійна-тэхнічных вучылішч і рабочыя фабрыкі мастацкіх вырабаў. Трэці факультэт — тэатральнага мастацтва,

# ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ...

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ




ДАЎНЯЯ ЗВЫЧКА Максіма Танка — пад кожным творам ставіць дату яго напісання ці, дакладней, заканчэння работы над ім. Першы верш яго новай кнігі «Хай будзе святло», якая падсумоўвае работу паэта за апошнія амаль што пяць з паловай год, памечаны 1.1.67, апошні — 21.IV.72. Перыяд немалы, а як для сённяшняга хуткаплыннага часу, то асабліва значны і змястоўны.

Як адбыўся ён у рабоце паэта?

Кампазіцыя кнігі склалася проста і натуральна, прынамсі на наш погляд: верш за вершам, паслядоўна, як дзень за днём (ні дня без радка!), і ў кожным вершы — адбітак душы паэта, яго ідэйнае і маральнае самаадчуванне ў разнастайнасці ўласцівых кожнаму дню падзей, здарэнняў, успамінаў, перажыванняў. Розныя падзеі пакідаюць след у свядомасці паэта: скажам, праблемы навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і тое, «што ўчора на калгаснай нашай ніве зазелянела маладая рунь», а таксама многае іншае... Танк глыбока перакананы, «што ў жыцці няма падобных ні месяцаў, ні дзён, ні хвілін».

Гэта, думаецца, адна з граняў танкаўскага гуманізму, разумення багацця штодзённага, «звычайнага» жыцця. Яго вершам (а іх больш за дзве з паловай сотні) зусім не ўласціва аднастайнасць — ні ў змесце, ні ў форме. Таму яны і не стамляюць: паэт умела чаргуе матывы і эмацыянальныя фарбы. Прастата кампазіцыйнай будовы кнігі падкрэслівае інтэнсіўнасць унутранага інтэлектуальнага жыцця паэта і духоўную змястоўнасць яго паэзіі.

Прага свежых уражанняў, адкрыццяў, жыццёвай навізны, уменне яе адчуць, уславіць перадавое, чалавечнае — без гэтага нельга ўявіць Танка ні як чалавека, ні як паэта. У адным з вершаў ён прызнаецца, што «не лічыў бы паэтам сябе, каб кожны мой дзень не быў днём нараджэння». Прага вандровак, падарожжаў, пошукаў — яна вельмі характэрна для яго паэтычнага настрою.

Паэтычныя небасхілы сённяшняга Танка надзвычай шырокія. Тэматычныя і ідэйна-эмацыянальныя абсягі яго паэзіі адпавядаюць маштабам сучаснага жыцця. Апошнім часам значна пашырылася геаграфія паэзіі Танка, узбагацілася яе грамадзянская лінія, яшчэ танчэй стала майстэрства.

Сягоння паэт імкнецца паўней і дакладней перадаць у сваёй творчасці неспыннае ўзбагачэнне і ўзбуйненне асобы савецкага чалавека на базе ўмацавання яго сувязей з грамадствам, з народам. Пашырэнне сферы чалавеказнаўчых і грамадзянскіх інтарэсаў усёй савецкай паэзіі ў творчасці Танка адчуваецца надзвычай выразна. «Ці будзе дождж, ці пройдзе стараной?» — гэты даўні сялянскі клопат хвалюе і паэта, які ганарыцца сваім сялянскім паходжаннем. Свет паэта прывязаны да зямлі, да рэальнага жыцця, але гэта свет мастака з уласцівай яму смелай фантазіяй, рамантычнымі ўзлётамі, нечаканымі сацыяльна-псіхалагічнымі адкрыццямі.

У паэзіі Танка жыве чалавек дзейсны і мужны, дасціпны і іранічны, мудры і па-дзіцячаму непасрэдны адначасова. У ім спалучыліся талент і вопыт, думка набыла выразнасць, філасофічнасць і пераканаўчасць афарызму.

Маральныя і эстэтычныя карэнні Танкавай паэзіі — народныя ў самым дакладным сэнсе слова. «Як аб перажытым народа майго расказаць?», — адна з галоўных турбот паэта, жыццё і лёс якога неаддзялімы ад жыцця і лёсу яго народа. Адно адлюстравалася ў другім, як перажытае старой маці ў наступным дыялогу:

**— Нешта вы, маці, сыноўскі**
**Шынель гэты доўга хавалі.**
**Зараз прыкіну,**
**Што можна пашыць з яго**
**Вашаму ўнуку.**

**Вось толькі шкада,**
**Мо недзе ля печы**
**Рукаў асмаліла...**
**— Не, у той дзень наша вёска**
**гарэла...**

**— Ну, я памяркую, прыкіну.**
**Ды тут і крысо, зачапіўшыся,**
**Нехта падзёр на цвіку.**
**— Не, гэта — на дроце калючым...**
**— Тут можна было б падтачыць.**
**Вось толькі на самых грудзях**
**Невялічкая дзірка ад молі...**
**— Не, гэта ад кулі...**
**(«Перакройванне шыняля»).**

Моцная знітаванасць з народным укладам жыцця надта ўласціва Танку і яго паэзіі, бо паэт, яго асоба і творчасць выраслі на народнай глебе. У яго песні мазолістыя рукі і вернае сэрца. Паэт не баіцца «празаізацыі» радка, бо тое, пра што ён расказвае, надзвычай важнае і значнае па думцы. Палітычны эфект уласцівы самой прыродзе яго мыслення.

Герой паэта з тых, хто стараўся сказаць Радзіме, народу аб сваёй любові перш за ўсё «плугам, пракладваючы барозны без агрэхаў, касой на парачанскіх сенажацях, сякерай, узводзячы з бярвення зрубы хат, вінтоўкай, што ўручылі ў час суровы...»

Яркае, сардэчнае слова прысвяціў паэт пяцідзесяцігоддзю роднай рэспублікі («Савецкая Беларусь»), магутна гучыць у Танка ленінская тэма («Суботнік», «Ленін на браневіку», «Ленін», «Жывы Ленін», «Гавораць аб гэтым»).

У новай кнізе шмат вершаў-успамінаў: «Ля старой хаціны», «Бяседа», «Пейзаж — 1939», «Пагасла электрычная лямпачка»... Нягоды мінуўшчыны яскрава адцяняюць нацы сённяшнія дасягненні. Вось радкі пра звычайную соль: «...Бацькі калісьці яе ў тры пальцы бралі, як малітву, куплялі ў крамнікаў расол з-пад селядцоў, у сцэжанай вадзе варылі бульбу двойчы, драбкі яе смакталі ад цынгі...» («Шахцёр»).

Строгім, па-грамадзянску суровым робіцца ў паэта маральнае ўспрыняцце жыцця. Права «судзіць» жыццё даў яму яго вялікі і багаты жыццёвы вопыт, вострае пачуццё асобы, якая ясна праступае ў яго паэзіі. Адсюль узрастанне праблемнасці ў падыходзе да рэчаіснасці, узмацненне філасофскага роздуму. Сягонняшняя паэзія Танка — гэта паэзія непакою. Ён ведае, што барацьба вядзецца ўсюды, што ніколі не сціхала яна і ў мастацтве: «Прайшоў я праз усе залы. Бачыў карціны, намаляваныя тлустымі пальцамі, скруткамі долараў, страхам, разгубленасцю, абыякавасцю. Калі ж у экскурсавода запытаўся: а дзе карціны, намаляваныя сціснутымі кулакамі, вачамі беспрацоўных, каменнямі барыкад, крывёю расстраляных, — у мяне праверылі дакументы і вельмі шкадавалі, што я — не іх падданы» («На выстаўцы»).

Можна смела сказаць, што ў паэзіі Танка выразна адлюстравалася сучасная эпоха з яе вострымі праблемамі і супярэчнасцямі: «Яны ўстануць, забітыя і закатаваныя, апаленыя бомбамі напалмавымі, яны ўстануць, хоць і пахаваныя пад руінамі Ханоя, пад хвалямі і пальмамі...» Устануць, каб «суд жывых не памыліўся — не дараваў ніводнай кулі катам». Сэрца паэта змяшчае боль планеты: «І дзень, і ноч, як праз сельвасы, плыве праз маё сэрца Амазонка — чырвоная рака агню, крыві і гневу» («З берагоў Амазонкі»). Нездарма яму і сёння дыск сонца над Бухенвальдам уяўляецца прабітым чэрапам.

«Спецыяльнасць мая — спецыяльнасць сапёра, які ўсё жыццё размінірвае шляхі да любві, дружбы, міру»—і ў гэтым паэт таксама бачыць сваю задачу. Грамадзянская пазіцыя паэта пранікнута гуманістычным пафасам, а роздум паэта, праблемнасць лірыкі сагрэты клопатам аб чалавеку:

**Ты, Homo kosmikos, мой брат,**
**Глядзі, каб не забыў**
**Знаёмых сцежак і прысад,**
**Сваіх жытнёвых ніў,**

**Гаючых рос, духмяных траў,**
**Далін, вятроў, азёр**
**І рук, з якіх ты стартаваў**
**Да невядомых зор.**

**І песень матчыных святых,**
**І смаку праснакоў,—**
**Чаго нідзе не знойдзеш ты,**
**Пайсці ў заклад гатоў.**

**А каб заўжды мог адшукаць**
**У космасе край свой,**
**Цвяток радзімы васілька**
**Вазьмі ў палёт з сабой.**

Гуманізм паэта і ў высакароднасці яго чалавечай натуры, у яго душэўнай далікатнасці («Як жа ісці па вуснах пявучых траў, па жывых, раскрытых вачах лотацы? Дык вось чаму птушкі лётаюць!»), у той трывозе ва лёс жывой прыроды, што бачна ў многіх вершах. З захапленнем пазірае ён за цецеруковым такавішчам, аднак чуецца і трывога:

**Пяюць, заплюшчыўшы свае вочы.**
**Пяюць, забыўшы пра жураўліны.**
**Хаця б вяселля іх не сурочыць,**
**Хаця б на песню іх гром не рынуў!**

Танк—як паэт, як чалавек, як асоба — вельмі абаяльны. Аб складаным ён імкнецца гаварыць проста, але на спрошчана, разлічваючы, у сваю чаргу, на поўнае разуменне з боку чытачоў. У сённяшняга Танка—у кага заўсёды хораша ўжываліся гумар і жарт, сатыра і проста гарэзлівасць, а часам нават сарказм, — значна пабольшала гэтых якасцей. Часта ў жартаўлівай форме паэт гаворыць аб вельмі і вельмі сур'ёзным і важным, як, напрыклад, у вершы «Памяці Івана Сікоры» — вядомага беларускага садавода:

**Вы яшчэ не прышчэплівалі свае**
**яблыні?**
**Як шкада, што Сікора — стары**
**садавод,**
**Аб якім у нас казкі, легенды**
**складалі,**
**На змярканні аднойчы згубіў**
**акуляры**
**І забрыў не дамоў, але ў рай**
**Або мо на другую планету,**
**І цяпер нельга з ім нам параіцца.**
**...Можа, пры дапамозе касмічных**
**ракет**
**Нам яшчэ з ім удасца звязацца.**
**Таму абы-якімі гатункамі чаранкоў**
**Вы не спяшайцеся прышчэпліваць**
**яблыні.**

Вершы Танка філасафічныя ў мастацкай своеасаблівасці падыходу да рэчаіснасці, у спосабе тыпізацыі жыццёвых з'яў. Тое, што для каго іншага можа здацца не вартым увагі, у мастацкай сістэме Танка, будучы падключаным да агульнай лініі паэтычнага напружання, набывае значны сэнс.

**Вы не маглі б,**
**Таварыш ювелір,**
**Гэты камень**
**З бруку нашага горада**
**Аправіць у золата?**

Камень для яго не проста камень, а менавіта гэты камень.

**Не, вы не махайце рукамі!**
**Я — не вар'ят.**
**Гэты камень —**
**Зразумейце толькі —**
**Даражэй за брыльянт,**
**Што ззяе ў вітрыне вясёлкай.**
**Ён у семнаццатым годзе**
**На барыкадзе быў,**
**У сорак першым**
**Мяне ад асколкаў фашысцкіх**
**прыкрыў.**
**А покуль мы зноў**
**Адбудоўвалі кожную фабрыку, дом—**
**Доўга мне ён падушкай служыў**
**І сталом.**
**Ён не такі просты камень,**
**паверце, —**
**Камень з бруку**
**Нашага горада,**
**Дзе сёння смяюцца шчаслівыя дзеці**
**І чуецца грому вясковага**
**грукат.**

Танк умее разгледзець вялікае і ў малым, у асобнай дэталі — веліч усёй рэчаіснасці. Тое, што для ўсіх прывычнае — у яго можа раптам выклікаць незвычайную душэўную рэакцыю, паэт здзіўляе нечаканасцю адкрыцця.

Даўно вядома, што для паэтыкі Танка характэрны актыўны зварот да вобразаў старажытнай культуры, антычнасці і адраджэння. Паэт, як носьбіт культуры, беражэ і памнажае яе багацці, што яшчэ раз сведчыць аб інтэлектуалізме яго паэзіі, аб дзіўным уменні збліжаць даўняе з сучаснасцю. У новай кнізе гэта рыса паэтычнага мыслення Танка атрымала далейшы працяг і развіццё. Надзённа гучыць спрэчка Мікеланджэла з богам у вершы «Перад «Рабамі». Бог просіць скульптара спыніць работу над вядомымі «Рабамі».

**Да раніцы яны спрачаліся, чуваць.**
**І бог, разгневаны, пакінуў гэту**
**стрэчу,**
**Не змогшы запалохаць і пераканаць,**
**Ды Мікеланджэла**
**паслаў**
**анёла смерці.**

Не менш сучасна гучыць вядомае пытанне Гамлета «быць ці не быць» для пасажыраў карабля, які плыве міма замка Эльсінора, а ўнізе, у сініх тонях, яшчэ з часоў вайны прытаіліся міны. Літаратурныя рэмінісцэнцыі характэрны многім творам паэта. З легенды, падання, старажытнага выказвання ён умее здабыць максімум важнага сёння, актуальнага сэнсу. Адштурхоўваючыся ад вядомага радка з

М. Танк. «Хай будзе святло». Вершы. Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972.

## ПЯСНЯР СВАБОДЫ

У тэатры імя Янкі Купалы адбыўся гарадскі літаратурны вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння вялікага венгерскага паэта-дэмакрата Шандара Пецёфі. Арганізатарамі вечара былі Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязяў з зарубежнымі краінамі, Саюз пісьменнікаў БССР і Беларускае аддзяленне таварыства савецка-венгерскай дружбы. З уступным словам выступіў народны паэт рэспублікі, Герой Сацыялістычнай Працы Пятрусь Броўка. Даклад пра жыццё і творчасць Шандара Пецёфі прачытаў доктар філалагічных навук, прафесар Алег Лойка.

Літаратурная праца Пецёфі, падкрэсліў яны, была зброяй працоўнага люду Венгрыі за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Непасрэдная сувязь з народам вызначала ідэйны змест яго паэзіі. Паэт сам са зброяй у руках удзельнічаў у рэвалюцыйным руху 1848 года, палымяным словам сваім натхняў на подзвігі народныя масы.

З новымі перакладамі твораў венгерскага паэта прысутных пазнаёмілі Мікола Хведаровіч, Анатоль Грачанікаў, Мікола Аўрамчык.

геніяльнага «Слова аб палку Ігаравым» «На Нямізе снапы сцелюць галовамі...», паэт, звяртаючыся да невядомага аўтара «Слова», намаляваў прывабную карціну сённяшняга дня.

А як хораша ажываюць пад яго пяром даўнія легенды! Тую, скажам, дзе расказваецца пра скамароха, што, заснуўшы, адпусціў з ланцуга Мядзведзіцу, і тая пайшла Млечным шляхам «праз нашу краіну азёрную», сцішыўшыся недзе ў паўночным логавішчы:

> **Адно, звон пачуўшы смыка,**
> **Пачынае скакаць, і да раніцы**
> **На сіні рачны перакат**
> **Густы зарапад асыпаецца.**
> **(«Зарапад»).**

Пераказаная паэтам легенда ўвабрала ў сябе ўласцівыя яму гумар, жартоўнасць, і цяпер, убачыўшы зарапад, мы напэўна ўспомнім яго верш, які ў нечым паэтычна ўзбагаціў наша ўспрыняцце свету.

Яркае, шматфарбнае апісанне народных звычаяў і традыцый, нанава пераасэнсаваныя прымаўкі і прыказкі, цэлыя пласты народнай свядомасці — усё гэта шырокім струменем уліваецца ў паэзію Танка, падпарадкоўваючыся ўладзе яго таленту. Ён, дарэчы, і крытычна ставіцца да некаторых недахопаў у правядзенні сучасных абрадаў (верш «Дажынкі»).

Зрэшты, у плане эстэтычным сувязь Танка з фальклорам, як і ў многіх паэтаў даволі не простая. Народны па светапогляду, эстэтычным уяўленням і праблематыцы, паэт творча пераасэнсоўвае фальклорныя матывы і вобразы.

Сярод вершаў, якія блізка стаяць да фальклору, пракідваюцца, на мой погляд, і некаторыя слабейшыя, — напрыклад, «Туман туманіць асенні, слотны...» з яго чыста ўмоўна фальклорнымі вобразамі жалейкі, дзяўчыны. У радзе такіх вершаў знаходзяцца «Святочнае», «Як была я мала, мала...». Асоба паэта выяўлена ў іх недастаткова.

У новай кнізе шырока прадстаўлена любоўная лірыка. Яна па-танкаўску вельмі адметная, у эпізодах і сітуацыях, якія ў ёй прысутнічаюць, таксама шмат гумару і жартоўнасці.

Любоўная лірыка Танка ўслаўляе жыццё, жаночую прыгажосць, яе вялікую ўладарную сілу. Аўтамат з газіраванай вадой не даў паэту асвяжальнай шклянкі, хоць той і кінуў яму некалькі манет:

> **А прыйшла Афрадыта,**
> **якая толькі што**
> **Выплыла з хваляў,— ён наліў**
> **ёй шклянку**
> **Асвяжальнай, газіраванай,**
> **з сіропам.**
> **Відаць, і мае медзякі ён аддаў бы,**
> **Калі б не паклікаў яе Акіян —**
> **Раззлаваны, зайздросны.**

Чытаць Танка, суперажываць яму, поўнасцю даверыцца — сапраўдная эстэтычная асалода. Яго паэзія, як усякая сапраўдная паэзія, безумоўна, шмат у чым эстэтычна асвятляе і ўзбагачае наш погляд на свет і бачанне жыцця.

Хацелася б адзначыць высокую мастацкую каштоўнасць танкаўскага верлібру. Паэтычная думка ў Танка — заўсёды думка новая, эмацыянальна афарбаваная, хоць яна часта падаецца «аголена», без строгіх традыцыйных размераў строфікі. Высокая ідэйнасць, аб'ёмнасць вобразаў, гранічная выразнасць слоўнага жывапісу, важкі, як волава, насычаны сэнсам радок, словам, лепшае, што заўсёды было яму характэрна, атрымала далейшы працяг ў кнізе «Хай будзе святло».

Кніга «Хай будзе святло»—значная падзея ў нашым грамадскім і літаратурным жыцці. Паэт верыць у магутную сілу паэзіі, ён, як і раней, — у дарозе.



А. Куляшоў і М. Нагнібяда.

# БУДАЎНІКУ МАСТОЎ БРАТЭРСТВА

**АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ — ЗАСЛУЖАНЫ РАБОТНІК КУЛЬТУРЫ УКРАІНЫ**

*Як ПАВЕДАМЛЯЛАСЯ ўжо ў друку, за заслугі ва ўмацаванні ўзаемасувязей братніх культур і плённую працу па прапагандзе ўкраінскай літаратуры Прэзідыум Вярхоўнага Савета УССР прысвоіў народнаму паэту Беларусі Аркадзю Куляшову ганаровае званне заслужанага работніка культуры Украінскай ССР.*

*Наш карэспандэнт звярнуўся да Аркадзя Аляксандравіча з просьбай адказаць на некалькі пытанняў.*

*— Як даўно вы займаецеся перакладчыцкай дзейнасцю?*

*— Даўно і не з нейкага асаблівага выпадку. Думаю, што кожны паэт павінен займацца перакладамі. Я лічу пераклад часткай сваёй творчасці. Таму нароўні з тым, што пішу сваё, перакладаю вершы паэтаў, якія мне падабаюцца. Далучэнне да творчых крыніц Шаўчэнкі, Пушкіна, Лермантава, Лангфела з'явілася для мяне вялікай школай паэтычнага майстэрства. Пераклады — асабліва з класічнай паэзіі — акрамя таго, што ўзбагачаюць паэта, раскрываюць магчымасці і нашай мовы, дапамагаюць распрацоўцы літаратурнага стылю.*

*Украінскіх паэтаў ведаю даўно. Яшчэ да вайны перакладаў Шаўчэнку, а пасля вайны — вершы свайго сябра і выдатнага паэта Андрэя Малышкі. У нас выйшла вялікая кніга яго паэзіі пад назвай «Запаветная крыніца». «Энеіда» І. Катлярэўскага мяне даўно цікавіла як твор, які мае непасрэднае дачыненне да беларускай культуры сваім бясспрэчным уплывам на паэмы нашага невядомага аўтара «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Гэта і паслужыла прычынай таго, што я ўзяўся за пераклад класічнага твора ўкраінскай літаратуры.*

*— Над чым вы працуеце цяпер?*

*— Я па-ранейшаму перакладаю вершы для двухтомнай анталогіі ўкраінскай савецкай паэзіі, якая павінна выйсці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Здаў вершы Л. Первамайскага, І. Выргана, працую над вершаванай навелай М. Бажана*

*Хутка разам з Рыгорам Барадуліным здадзім у выдавецтва кніжку паэзіі Сяргея Ясеніна, куды ўвойдуць яго лірычныя вершы і паэмы.*

*Перакладаю лірыку Кайсына Куліева. Частка маіх перакладаў друкавалася ў «Літаратуры і мастацтве». У гэтым годзе збіраюся прапанаваць выдавецтву аўтарызаваныя пераклады з Кайсына Куліева. Зборнік яго паэзіі будзе называцца «Кніга зямлі».*

*— Вашы пачуцці з выпадку прысваення вам ганаровага звання заслужанага работніка культуры братняй рэспублікі?*

*— Высокая ацэнка маёй сціплай работы ўрадам Савецкай Украіны з'яўляецца радаснай падзеяй для мяне. Я лічу абавязкам кожнага савецкага літаратара служыць пачэснай справе збліжэння і ўзаемаўзбагачэння братніх культур, братніх сацыялістычных народаў.*

*Аркадзь Аляксандравіч з гордасцю паказвае віншавальныя тэлеграмы ўкраінскіх сяброў: «Віншую, абдымаю цудоўнага, дарагога для мяне чалавека, паэта, сапраўднага друга маёй роднай украінскай культуры. Мікола Бажан». «Дарагі наш Аркадзь Аляксандравіч! Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Украіны сардэчна вітае Вас, вядомага беларускага паэта, будаўніка мастоў братэрства паміж украінскім і беларускім народамі, з прысваеннем пачэснага звання заслужанага работніка культуры Украіны. Высока шануем Ваш вялікі ўклад ва ўмацаванне дружбы нашых народаў, нашых культур. Хай шчодра родзіць Ваша паэтычная ніва, хай будзе багата яна шчасцем, здароўем, новымі вершамі, паэмамі, перакладамі. Смоліч, Казачэнка, Збанацкі, Заграбельны, Барыс Алейнік, Салдаценка, Сцяпан Алейнік».*

# АПАВЯДАННЕ Ў «БЕЛАРУСІ»

*У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР*

Адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

Прэзідыум зацвердзіў план асноўных мерапрыемстваў праўлення на 1973 год. Былі таксама абмеркаваны апавяданні, надрукаваныя летась у часопісе «Беларусь».

Агляд апавяданняў зрабіў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР кандыдат філалагічных навук Міхась Мушынскі. Ён адзначыў пэўныя поспехі рэдакцыі часопіса ў падборы апавяданняў. На думку аглядальніка, у многіх змешчаных у «Беларусі» апавяданнях добра прагучала грамадская актыўнасць, уласцівая гэтаму аператыўнаму жанру. Станоўча ацэнены ім апавяданні «Каралеўскі стрэл» Васіля Хомчанкі, «Соўка» Таццяны Гарэлікавай, «Ада» Генрыха Далідовіча, «Помста» Алеся Пальчэўскага і іншыя.

Тым не менш, падкрэсліў аглядальнік, некаторым творам бракуе глыбіні думкі і добрага мастацкага густу. Пастаўленыя ў іх праблемы вырашаны павярхоўна, шаблонна. Апавяданне У. Кузьмянкова «Карташоў гай» задумана цікава, тэма яго актуальная — канфлікт паміж вопытным, разважлівым кіраўніком калгаса і кар'ерыстам, але, на жаль, пад канец апавяданне, можна сказаць, скамечана. М. Мушынскі выказаў заўвагі па творах «Буран» Яўгена Радкевіча, «Канцэрт» Рамана Сабаленкі, «У час не вярнуліся» Уладзіміра Шыціка.

Мікола Гамолка заначыў, што часопіс у жанры апавядання зрабіў значны крок наперад. Надрукаваны цікавыя творы глыбокага сацыяльнага зместу. У леташнім, юбілейным годзе пэўная ўвага аддавалася апавяданням пісьменнікаў брацкіх рэспублік. Але варта адзначыць, што ў апавяданнях беларускіх аўтараў недастаткова прагучала актуальная для нас ва ўсе часы тэма дружбы народаў. Недастаткова часопіс аддае ўвагі таксама творам аб рабочым класе. М. Гамолка выказаў пажаданне, каб на старонках «Беларусі» з'явіліся творы з працягам, а таксама вострасюжэтныя творы рэалістычнага характару.

Сваімі думкамі падзяліліся таксама Мікола Ракітны, Мікола Ваданосаў, Уладзімір Калеснік.

Галоўны рэдактар часопіса «Беларусь» Міхась Калачынскі падзякаваў агляднальніку і тым, хто выступаў у спрэчках, за грунтоўны аналіз змешчаных у часопісе апавяданняў, за аб'ектыўную ацэнку работы рэдакцыі. Ён звярнуў увагу прэзідыума на неабходнасць вырашэння некаторых арганізацыйных пытанняў.

Вынікі абмеркавання падсумаваў першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Шамякін. Ён засяродзіў увагу на шэрагу актуальных праблем, якія стаяць зараз перад літаратурай. Ад імя прэзідыума праўлення І. Шамякін выказаў упэўненасць, што рэдакцыя часопіса «Беларусь» прыкладзе ўсе намаганні для далейшага паляпшэння работы часопіса.

# ЛЕПШЫЯ ВЫДАННІ ГОДА

**Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю і Рэспубліканскае навукова-тэхнічнае таварыства паліграфіі і выдавецтваў падвялі вынікі чарговага рэспубліканскага конкурсу на лепшыя выданні па мастацкаму афармленню і паліграфічнаму выкананню.**

**Ад 9 выдавецтваў рэспублікі на конкурс паступіла 118 кніг і альбомаў, якія ўбачылі свет у 1972 годзе.**

**Вышэйшай узнагародай конкурсу—дыпломам імя Францыска Скарыны адзначаны альбом Л. Баразны «Гравюры Францыска Скарыны» (выдавецтва «Беларусь»), надрукаваны на паліграфкамбінаце імя Я. Коласа. Гэтае выданне вызначаецца высокім узроўнем мастацкага афармлення, дасканаласцю канструкцыі і паліграфічнага выканання. Высокай узнагародай адзначана праца мастакоў У. і М. Басалыгаў, мастацкіх рэдактараў В. Курусь і В. Харэўскага, а таксама аўтара-складальніка Л. Баразны (пасмяротна).**

**12 выданняў узнагароджаны дыпломамі першай ступені. Дасканаласцю мастацкага і паліграфічнага выканання характарызуюцца кнігі П. Броўкі «Лірыка» (мастак В. Бароўка), зборнік вершаў «Калі ласка» (мастакі У. і М. Басалыгі), якія выйшлі ў выдавецтве «Беларусь», кніжкі-малюткі Я. Купалы (мастак Б. Забораў) і Я. Коласа (мастак В. Шаранговіч), М. Танка «Хай будзе святло» (мастакі У. і М. Басалыгі), паэма «Далёка да акіяна» А. Куляшова (мастак Г. Паплаўскі), выпушчаныя ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», а таксама кніга М. Кацара «Народна-прыкладное мастацтва Беларусі» (мастак А. Шэвераў), якая выйшла ў выдавецтве «Вышэйшая школа», даведнік «Сто парад трактарысту» (выдавецтва «Ураджай», мастак Ю. Архіпаў) і іншыя.**

**21 выданне адзначана дыпломамі другой ступені і 25—заахвочвальнымі дыпломамі.**

**Кнігі і альбомы, якія атрымалі ўзнагароды на рэспубліканскім конкурсе, накіраваны ў Маскву на чарговы ўсесаюзны конкурс лепшых выданняў па мастацкаму афармленню і паліграфічнаму выкананню.**

**М. ГАНЧАРОЎ,**
**намеснік старшыні журы конкурсу.**



Міхась ДАНІЛЕНКА

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

## МАЦІ МАР'Я



Маці Мар'я згасала.

Так паціху згасае полымя свечкі ў ясны сонечны дзень. Язычок ледзь тлее, трапечацца ў чыстай сіняве дня, але досыць маленькага дыхання, каб агеньчык патух, ледзь бачна зачадзіў на воск дымок кноту.

З глыбокіх вачніц няўцямна глядзелі ў столь Мар'іны вочы, складзеныя на грудзях пальцы рук перабіралі—быццам нешта шукалі. Жанчына здавалася, сілілася нешта ўспомніць надта ж важнае, без чаго нельга было ёй адпраўляцца ў тую далёкую дарогу, у якую наканавана пайсці кожнаму чалавеку.

Тры дачкі, рослыя жанчыны з агрубелымі ад працы рукамі, стаялі ля ўзгалоўя маці Мар'і — стараліся адгадаць кожнае яе жаданне.

— Можа вам падушку вышэй падняць, каб лягчэй дыхалася? — пыталася адна, Стася, і асцярожна ўзнімала падушку з лёгкай матчынай галавой. Бялюткія валасы рассыпаліся па той падушцы.

— Штосьці Алены няма. Ці атрымала хоць тэлеграму?

Чакалі прыезду малодшай, Алены, якая жыла ў горадзе. Ведалі: яе маці любіла мацней за іншых. Можа таму, што не зладзілася ў Алены жыццё. З мужам, Яўгенам, дзе толькі ні жыла яна — і ў Томску, і ў Бурацii. А потым разышлася з бяспутным чалавекам — цяпер жыла ў Гомелі, расціла двух дачок.

Калі надыходзілі пробліскі памяці, маці Мар'я бачыла перад сабой парослае чэзлым хмызам балота. Ля купін пузырылася іржавая вада — выходзіў балотны газ. Яна — тады яшчэ маладая — прыціскала да жорсткай асакі-разучкі галоўкі дачок і шаптала:

— Ціха, ціха, мае мілыя...

Дзеці маўчалі. Толькі самая маленькая, Ленка, сілілася выбрацца з-пад матчынай рукі і зірнуць: што там, за нізкарослай з шурпатым ствалом сасёнкай. Адтуль, недзе ад краю балота, час ад часу даляталі галасы, падобныя на сабачы брэх.

Ад балотнай твані падымаўся рэдкі ўдушлівы туман — казытаў горла, на вачах наварочваліся слёзы.

— Ціха, мае дарагія...

Яна ўздрыгнула ўсім целам, умомант азірнулася, калі ззаду заплёхалі па вадзе чыесьці боты і пачуўся голас:

— Партызанэн? Шысэн!

Перад ёй, шырока расставіўшы ногі, стаяў немец. Плямістая плашч-палатка, рукзак з цялячай скуры. На маці Мар'ю і яе дзяцей глядзела няўмольная смерць з-пад пазалочаных акуляраў...

Жанчына закалацілася, загарнула сабой белавалосыя галоўкі. Меншанькая Ленка шырока расплюшчанымі вачыма глядзела на салдата.

— Дзеці, — шаптала маці пабялелымі вуснамі. — Дзеці....

Чорны зрачок дула аўтамата яшчэ нейкае імгненне глядзеў на іх. Здавалася, яно было пакутліва-бясконцым... А потым немец асцярожна выцягнуў з вады бот з кароткай халявай, акуратна выцер галінкай з яго іржавыя пацёкі, быццам далей павінен быў ісці па сухім, і зашамацеў калянай палаткай у бліжніх кустах.

Калі праз нейкі час маці Мар'я перавязвала запырсканую балотнай вадой хустку, Стася ціха войкнула:

— Мама, ты ўся белая...

І вось нібы той туман з балота ўсё падымаецца, напаўняе грудзі жанчыны ўдушшам — няма як дыхаць... Маці Мар'я намагаецца ўсё нешта успомніць. Па прасціні бегаюць, шараць каструбаватыя пальцы. Яе ўсе ў вёсцы аж да сталых гадоў так і звалі — маці Мар'я.

— Збегай, запалак пазыч у маці Мар'і, — бывала, гавораць.

А калі ў нялёгкія пасляваенныя гады не было запалак, то ведалі: у загнетку хаты маці Мар'і заўсёды пад прысакам тлеюць гарачыя жарынкі — на распал беражэ іх.

...Туманнае мроіва абвалаквае жанчыну. Тлее, хіліцца ад ледзь улоўнага павеву ветрыка полымя свечкі. Вось-вось пагасне, пакіне жыццё высахлае цела, рукі з выпуклымі венамі, перастане стукаць сэрца. Цяпер яно пульсуе з рэдкімі перарывамі. Дзе ты, Алена? Мусіць, вера ў тое, што дачка ўсё ж застане ў жывых маці, падтрымлівае расточак жыцця ў лёгкім целе...

— Можа галаву яе ніжэй палажыць?

Гэта гаворыць муж. Але маці Мар'я ўжо не адрозвівае, чый то голас. Не адзін дзесятак гадоў яны цягнулі рыпучы жыццёвы воз удваіх, пароўну. І той далёкі дзень, калі на ўсыпаным буйнымі рамонкамі полі яна сустрэла Івана, адступіў, расплываўся ў далечы часу. Міналі гады і іхні клопат быў у дзецях. Кожны непаладак у сем'ях дачок перажывалі самі. Запіў Стасін муж — ён працаваў на маленькім колавым заводзе — і маці Мар'я з Іванам ішлі ўшчуваць лабастага зяця з бычынай шыяй.

— А не трэба ж, дзеткі мае, так рабіць, — ціха гаварыла маці Мар'я, а Іван толькі кідаў косыя позіркі на зяця, які сядзеў на ложку, пакрыўджана апусціўшы галаву, быццам яму незаслужана выгаворвалі.

...У апошні раз задрыжэў і пагас агеньчык жыцця. Халоднай рукой дакранулася да пергаментнага лба чалавека смерць. І ў гэты момант рыўком адчыніліся дзверы. Алена з ускалмачачанай прычоскай, з прадаўгаватымі, як у буратаў, вачыма, задыханая, уляцела ў хату.

— Мамачка мая! — узвіўся яе напоўнены невымерным болем голас.

## ПРЫЙШОЎ ЧАЛАВЕК



У палаце, дзе ляжаць парадзіхі, два шырокія акны. Каця, як толькі прачынаецца, бачыць рамы, чыста вымытае шкло шыбін і далёкія дамы. Адтуль, дзе яна жыве, сюды амаль кожны дзень прыязджаў муж Федзя — прывозіў перадачы. А навошта яны ёй, тыя перадачы? Кампот са сліў яна аддала суседцы на правым ложку — грубаватай на язык даярцы Люсі. Тая чакала трэцяе дзіця і ўсё ўталкоўвала Каці:

— Чаго, дурная, хвалюешся? Наш жаночы лёс такі: мы раджаць павінны. Без нас і род чалавечы даўно звёўся б...

Каця чырванела, адварочвалася, а Люся смачна пахруствала яблыкам, прыцмоквала языком:

— І зямля без жанчын апусцела б, і гарады апусцелі б... Я вось нараджу сваму Кузьму і дачок і сыноў — яшчэ гераіняй стану. А вырастуць, буду як у той песні пяецца, ездзіць ад Рамана да Івана...

Каця, адвярнуўшыся, пазірала ў вакно. Вунь у далечыні паказалася чорная кропка. Часцей забілася сэрца: Федзеў самазвал!

Федзя рабіў на ім ужо каторы год — вазіў на будоўлю цэмент, дошкі, жалезную арматуру.

— Мой конік моцны. Яму зносу не будзе, — любіў ён паўтараць, калі часам падвозіў Кацю ў прадуктовую краму, дзе яна працавала прадаўшчыцай. — Вось будзе ў нас сын, і яго на шафёра вывучу, як падрасце.

— Кінь выдумляць, — прытворна крыўдзілася Каця. — Яшчэ невядома, ці будзе ў цябе сын.

— Будзе, старая, ой будзе, — паказваў моцныя зубы Федзя і стараўся пяшчотна абняць Кацін распаўнелы стан.

Самазвал каціў, пагойдваўся на выбоінах дарогі. На будоўлі даўно ведалі: чалавек чакае сына. І амаль кожны дзень, калі Федзя адвёз у радзільны дом Кацю, сябры сустракалі яго пытаннем:

— Ну, як?

— Пакуль ніяк, — паціскаў плячыма Федзя.

Ён схуднеў, пад вачыма значыліся сінія кругі. «Ці ясі ты хоць што?» — напісала ў запісцы яму аднойчы Каця. «Ого, яшчэ і як ем», — адпісаў ёй Федзя. А Каця сумнявалася — ведала ж, перажывае вельмі за яе.

Некалькі дзён назад у яе нарадзіўся сын. Немаўля з ружовымі губкамі, з маленькімі кволымі пальчыкамі, да якіх было боязна дакрануцца. Дзіўна: яно ўжо моршчыла лобік, патрабавальна, упэўнена падавала пісклявы галасок... Чалавек! Люся, у якой якраз у той дзень нарадзілася дачка, разважала цяпер на ўсю палату:

— Я і казала, што ўсё абыдзецца, што будзе ў цябе, Кацька, сын! Я — ведала...

Да Каці прыходзілі сяброўкі з магазіна, дзе яна працавала, перадавалі кветкі, каробкі цукерак... А Федзя, анямелы ад шчасця, тоўкся ўнізе пад акном і не разумеў, і злаваўся, што не пускаюць у палату.

Колькі дзён ён не даваў у палаце нікому спаць: калі ранёнька ехаў на працу, дык спецыяльна дудзеў на сваім самазвале. А то і спыняўся...

— Хопіць спаць! — крычаў знізу, адчыніўшы дзверкі кабіны, хоць яго ніхто і не чуў. — Мой сын есці хоча... Карміце сына!

Няньkі прыносілі закручаных у «канверцікі» малышоў. Каб не пераблытаць, да ручак немаўлят прывязвалі нумаркі. Яны, гэтыя чалавечкі, яшчэ не мелі імён, не ведалі, што трэба было зрабіць ім у гэтым жыцці, які ім лёс наканаваны, а мамы хваляваліся за іх, баяліся лішні раз раскручваць пялёнкі, каб, барані божа, не прастудзіць кволае цельца.

Перапоўненая шчасцем, Каця ляжала і глядзела на сына. Кім ён будзе, як вырасце? Шафёрам, як Федзя, ці можа пацягне ў блакіце бялюткі след, які яна бачыла ад рэактыўных самалётаў, у далёкія сусветы?

— Гэй там, наверсе! — раптам зноў пачуўся радасны, жартаўлівы Федзеў голас. — Хопіць разлежвацца. Дзяцей карміць трэба!

Каця прыўзнялася на ложку, і, весела бліскаючы вачыма, пагразіла праз акно мужу кулаком: ідзі ўжо ты, ідзі дамоў... Вось пачакай, выпішуся з радзільні, дык вазьмуся за тваё выхаванне... І жанчыны ў палаце паблажліва і неяк вельмі цёпла ўсміхаліся маладой маці — шчаслівая!

А Федзя стаяў на вуліцы ля самазвала — упёр рукі ў бокі: здавалася, ніякая сіла не скране гэтага шчупляка з месца...

*СЛОВА БЯРЭ ЧЫТАЧ*

# БРАТНЯЯ, ШЧЫРАЯ ПЕСНЯ

З цікавасцю прачытала перакладзены на беларускую мову зборнік вершаў вядомай літоўскай паэтэсы Саламеі Нерыс «Калі зямля прачынаецца». Ён выйшаў у серыі «Паэзія народаў СССР», якая атрымала жыццё ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». У прадмове да кнігі народны пісьменнік Літвы Антанас Венцлава расказвае аб нядоўгім, але высакародным, узнёслым жыццёвым і творчым шляху «любімай паэтэсы літоўскага народа».

У вершах аўтара шмат цеплыні і святла, улюбёнасці ў родную прыроду. У той жа час у творах гучаць і сумныя матывы, калі паэтэса ўспамінае, якім горкім быў лёс яе радзімы раней. Побач вершы, якія ўслаўляюць шчаслівае жыццё, што прыйшло пасля ўступлення Літвы ў сям'ю народаў СССР. Цікавая творчасць С. Нерыс і ў гады Айчыннай вайны.

Не ведаючы літоўскай мовы, я не магу меркаваць, наколькі дакладныя пераклады. А над зборнікам працаваў даволі вялікі калектыў паэтаў: Е. Лось, Р. Барадулін, С. Грахоўскі, Ул. Нядзведскі, В. Шымук, Э. Агняцвет, Я. Семяжон і іншыя. Асабліва, мне здаецца, удаўся Р. Барадуліну пераклад паэмы «Эгле — каралева вужоў». У ім захавана фальклорная прастата і празрыстасць. Вось, напрыклад, Эгле расказвае дзецям аб прыгажосці роднай зямлі:

Там, дзе ля дарогі
Явар бачыць сны,
Дзе плыве двухрогі
Маладзік лясны,
Там зямля святая —
Родны край бацькоў!
Раніца вітае
Песняю касцоў!

Сустракаюцца і не вельмі ўдалыя пераклады. У іх нават цяжка дайсці да сэнсу. Напрыклад:

Кветкі ў слёзах бачаць мукі —
Ім, жывым, не трэба сон.

(Пераклад Ул. Нядзведскага).

Але такіх прыкладаў няшмат.

Паэзія С. Нерыс на беларускай мове гучыць шчыра і пранікнёна.

**Л. ГІНАК.**

г. п. Мір.

# ВЕРШ І ВОБРАЗ

Гэтая кніга, безумоўна, зацікавіць усіх, хто любіць паэзію. Называецца яна «Структура вершаванага вобраза. Умоўная асацыятыўнасць у сучаснай савецкай паэзіі», аўтар—малады даследчык Іван Шпакоўскі. Як сведчыць анатацыя, «у кнізе даследуецца роля ўмоўнасці ў стварэнні вершаў, у індывідуальным стылі паэта».

Аўтар спасылаецца на творчасць вядомых паэтаў М. Танка, П. Панчанкі, А. Куляшова і іншых, стараецца пазбягаць надакучлівага маралізатарства, дыдактыкі, імкнецца быць зразумелым не толькі спецыялістамі літаратуры, але і простымі чытачамі, якіх цікавіць далейшы шлях беларускага верша.

Аднак ёсць, як мне здаецца, і адзін істотны недахоп у кнізе. Цытуем аўтара: «Карэнне ўмоўнасці «цягнецца» з вуснай народнай творчасці, з ананімных паэм «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе». Умоўнай асацыятыўнасцю насычана творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа і М. Багдановіча, У. Жылкі, М. Чарота і У. Дубоўкі».

Такім чынам, калі асацыятыўнасцю «насычана» творчасць многіх папярэднікаў сучаснай беларускай паэзіі, прычым, бярэ яна свой пачатак з фальклору, то як мы можам гаварыць аб ёй толькі ў дачыненні да творчасці некалькіх выбраных сённяшніх аўтараў?

Бясспрэчна, што ўмоўная асацыятыўнасць уласціва кожнаму паэту ў той ці іншай ступені, няхай нават у вельмі розных «шкалах вышынь». Дык чаму ж у даследаванні мы не знаходзім разгляду творчасці такіх сталых і шматгранных паэтаў, як С. Грахоўскі, М. Аўрамчык, С. Гаўрусёў, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін? Якраз іх творам у значнай меры характэрны ўмоўныя асацыятыўнасць, алегарызм, сімволіка і інтэлектуалізм, аб якіх аўтар вядзе зацікаўленую гаворку.

Але яшчэ раз паўтару: кніга будзе цікавым дапаможнікам даследчыку і шырокаму колу аматараў паэзіі. Чытачы ўдзячныя Мінскаму выдавецтву «Навука і тэхніка» за цікавую кніжку.

**В. ЯРАЦ,**
аспірант Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.

# ПЕСНЯ



Прачынаюся я рана. Яшчэ спіць, падклаўшы далонь пад ружовую шчаку, Проня, раскінулі рукі на пасцелі сыны, пасапвае ў падушку малодшанькая дачка, а я — на нагах. Падыходжу да акна.

І дом спіць. Толькі чуваць, як на нашай пляцоўцы маладая суседка ўкалыхвае малое. Надта ж крыклівая ўдалася ў яе дачка: днём спіць сабе, а ноччу крычыць, аж на ніжэйшых паверхах чуваць.

Мільгацяць у тумане электрычныя лямпачкі. А вунь у доме насупроць засвяцілася адно, другое акно.

У кухні ляжаць гантэлі. Падымаю іх — раз, два, уверх — уніз, уверх — уніз, аж суставы прыемна паломвае. Раўнейшым робіцца дыханне. Трыццаць разоў падняць гантэлі — мая норма. Якраз тады, як трыццаты раз іх апускаю, са спальні даносіцца Пронін голас:

— Ты падняўся ўжо, Сяргей?

— Іду мыцца, — адказваю ёй ціха, каб не пабудзіць дзяцей.

Тугі халодны струмень з-пад крана асвяжае твар, шыю, грудзі. Я мыюся і прыгадваю: колькі ж гэта мы жывем разам з Проняй? Ажаніўся я, як на пабыўку з арміі прыехаў. Знаёмы дзівак напісаў мне, што за Проняй у саўгасе ўвіваецца адзін хлюст. «Не, дудкі, — думаю. — Не возьмеце вы ў мяне з-пад носа гэту сінявокую дзяўчыну». За Проню — і ў загс...

...Потым я еду на працу. Вадзіцель тралейбуса час ад часу аб'яўляе чарговыя прыпынкі. Працую я на хімзаводзе. Двайны суперфасфат — вось што ён вырабляе. Я думаю: колькі ні буду жыць у горадзе, у глыбіні душы ўсё роўна застануся ў нейкай меры вясковым чалавекам. Мяне хвалюе, калі ранняй вясной спявае-радуецца, што вярнуўся зноў на радзіму, шпак. Я гляджу, як часта-часта дрыжыць яго падбітае шэрым пухам горла, калі птушка свішча, шчоўкае, па-кашачы шыпіць, каб усе ведалі: яна — дома, і ўспамінаю саўгас, яго яблыневыя сады. У маі яны пакрываюцца спорнай ружаватай квецецню. Калі моўчкі стаіш у такі дзень пад грушай, абсыпанай кветкамі, дык чуеш роўны, зладжаны пчаліны гуд.

Ды я ўжо даўно — гарадскі чалавек.

Брыгадзір наш Ілья Самойлавіч дае нам чарговы нарад на работу.

Мы—гэта трое: я, маўклівы цыбаты Васіль і непаседлівы, жвавы, тоўсценькі Грышка Чыж. Грышка Чыж — украінец. Сёння ён мне хітравата падміргвае і жартуе:

— Ты, Сяргей, ледзь не спазніўся. Зноў, мабыць, Проня забылася завесці будзільнік...

Мы да драбніц ведаем усё адзін пра аднаго і пра Ілью Самойлавіча. Я ведаю, напрыклад, што ў брыгадзіра на левай руцэ сінеюць лічбы сямізначнага нумара: чалавек цудам перажыў Асвенцым. Нумар ён заўсёды стараецца непрыкметна прыкрыць рукавом курткі ці каўбойкі...

Ведаю, што Васілёва дачка Люда вучыцца ў музычным вучылішчы па класу акардэона. Калі я напісаў словы песні пра мой горад (здараецца і я зрэдку грашу вершамі), Люда іграла яе, а мы ўтраіх падпявалі: Васіль гудзеў нізкім басам, а Грыша цягнуў-цягнуў угору — выбіваўся з агульнага ладу...

За заводам вырастае гара белага парашку. Гэта хімічныя адыходы ад суперфасфату. З гэтага парашку неўзабаве будуць вырабляць шыфер. А на складзе ляжыць суперфасфат у цэлафанавых мяшках. Ён вунь як патрэбен нашым палям. Няхай расце, высіцца гэтая каштоўная гара. Самойлавіч паглядвае на нас з-пад пасівелых брывей і гаворыць, пасміхаючыся:

— Учора адзін прараб хацеў падмогу нам прыслаць.

Мы паварочваемся да брыгадзіра, слухаем. А ён прадаўжае:

— «Маляры ў тваёй брыгадзе ёсць»? — пытаецца. — «Ёсць», — адказваю. — «А колькі іх?» — «Трое». — А шкляры? У новым цэху трэба вокны зашкліць: абсталяванне ўжо ўстанавілі». — «Ёсць» — кажу, — і шкляры. Трое». «А паркетчыкі»? — «Ёсць і паркетчыкі. Іх таксама трое». Дык ён — паверыце, хлопцы,— адступіў крокаў на два ад мяне, ды здзіўлена рукамі развёў: — «Дык колькі ж вас у брыгадзе?» — пытаецца. — «А нас трое, — кажу. — Са мной чатыры», — Ілья Самойлавіч ціхенька смяецца і пацірае, быццам яна здранцвела, левую руку. — «Навошта вам падмога? — кажа прараб. — Усё самі зробіце».

Мы ўсе весела смяёмся. Ого, нас толькі трое, але гэта вялікая сіла, думаем мы — і я, і Васіль, і кругленькі, як шар, Чыж.

А навокал кіпіць жыццё... З наструненых у вышыні трасоў ваганеткі адна за другой перакульваюць уніз парашок. Грыша раптам дакранаецца да майго пляча рукой, акідвае позіркам усю панараму завода і гаворыць, нібыта жартаўліва, нібыта ўсур'ёз:

— Сярожа, напішы песню пра нас, га?

Васіль, які адмывае ў газе пэндзлі, падымае галаву і моўчкі глядзіць на мяне — чакае, што я адкажу.

— А, што, Чыжык? А што? Пра вас такую цудоўную песню трэба, хлопцы... каб па ўсёй краіне спявалі! — чамусьці хвалююся я і, адчуваючы, як незвычайнае пачуццё радасці напаўняе мяне пад гэтымі шчырымі позіркамі сяброў, спяшаюся ў новае памяшканне заводскай канторы — класці паркет.

# ПАЭТ І ВУЧОНЫ



*У гады нашай маладосці Алесь Вечар быў паэтам, які сярод нас падаваў добрыя надзеі. Ен быў «маладняКоўцам», і ягоныя вершы часта сустракаліся на старонках газет і часопісаў.*

*Але ён захапляўся і навукай. Біяхімія на доўгія гады захапіла яго цалкам. Вядомая рэч, што паэзія на некаторы час адступіла.*

*Цяпер Алесь Вечар — вядомы біяхімік, акадэмік АН БССР, аўтар шматлікіх навуковых прац. Нямала ў яго і вучняў. Але і паэзія не дае яму спакою. Яна, як і ў гады маладосці, знайшла ў ягоным сэрцы месца і для сябе.*

*Перад намі два вершы вучонага і паэта, якія мовай паэзіі гавораць аб навуцы. Прыемна, што захавалася належнае паэтычнае майстэрства ў аўтара. Пажадаем жа яму новых поспехаў і ў даўно любімай ім паэтычнай дзейнасці.*

**Пятрусь БРОЎКА.**

Люты, 1973 г.

Алесь ВЕЧАР

## КАМЕНТАРЫЙ ДА АРТЫКУЛА

**Энцыклапедыя!**
**Гэта не жарт**
**Мець сцежку да нашых патомкаў.**
**А як перадаць ім душы нашай жар**
**і сэрца кіпучую звонкасць!**
**Разбегліся думкі ў маёй галаве,**
**Іду я па ржэўніку босы,**
**Мне месца знайшлося пад літарай «В»**
**У адным з тых тамоў шматгалосых.**
**Радзіўся і жыў я тады і тады...**
**Уся праўда пра нашага брата!**
**Пісаў нават вершы, як быў малады.**
**Ды толькі апошняя дата**
**Яшчэ не з'явілася ў дробным радку,**
**Хоць знаўся я з днямі ліхімі,**
**Амаль невядома, чаму і адкуль**
**З мяне вырастаў біяхімік.**
**Таварыш!**
**Пакуль я па свеце хаджу,**
**Пакуль не ўпакаваны ў тару,**
**Паслухай, будзь ласкаў, што я раскажу,—**
**Мой сам пра сябе каментарый.**
**Разгорне патомак вось гэтакі том,**
**Быць можа, у энным выданні**
**І стане гартаць яго ліст за лістом,**
**Ісці між падзей і паданняў.**
**Спакойна старонку маю праміне,**
**Не трэба нікога такога.**
**Крычу праз гады я: «Была і ў мяне**
**Свая навуковая школа».**
**Я змалку прывык, каб у кіпені дзён**
**Высока цанілася праца.**
**Таму, хто нішчымнаму хлебу жадзён,**
**Няма больш на што апірацца.**
**У навуку за рукі мяне не вялі,**
**Ішоў не па гладкай дарозе.**
**Я знаю, як ныюць падчас мазалі**
**І стыне душа на марозе.**
**Навука мая прастаяла ў чарзе**
**Нямала каштоўнага часу.**
**Змаўчу я, калі пра мяне хто вярзе:**
**«Вучоны не першага класа».**
**Навука, па-мойму, падобна жыццю.**
**Існуе яна не для славы,**
**Якая звычайна прыходзіць к канцу,—**
**Існуе для лепшае справы.**
**Існуе яна, каб на светлай зямлі**
**Жылі па-разумнаму людзі,**
**Каб шчасце планеты яны не змялі**
**У войнах, гультайстве і брудзе.**

**Патомкі!**
**У вас ужо можа няма**
**Падзелу на школы і школкі,**
**Навука сабе вызначае сама,**
**Што трэба даследваць і колькі.**
**У вас ужо кожны жывы чалавек**
**Вышэйшую мае асвету.**
**Я веру, што ён у сваёй галаве**
**Трымае не толькі анкеты.**
**Мне вас, непрыйшоўшых, не прыйдзецца стрэць,**
**Мой след зараўнуецца скора,**
**Але, спадзяюся, не будзе старэць**
**Мая навуковая школа.**

## ЮБІЛЕЙНАЕ СЛОВА

*І. Д. ЮРКЕВІЧУ*

**Беларусь — наша песня!**
**Бягуць яе светлыя рэкі**
**І глядзіцца яна ў іх і бачыць сваю прыгажосць**
**У Дняпры, што калісьці быў шляхам**
**«з варагаў у грэкі»,**
**У шматлікіх прытоках, якія цякуць да яго.**
**Толькі Нёман чагосьці з Дняпром не паладзіў.**
**Можа рухі грунтоў іх падзялілі даўно**
**І раз'юшаны Нёман знайшоў сабе іншыя ляды**
**Ды падаўся на захад услед за красуняй Дзвіной.**
**Як вялікія рэкі ўзнікаюць з малых ручаінак,**
**Што знаходзяць свой шлях пад аховаю нашых лясоў,**
**Так са звестак пра свет**
**розных дрэў, хмызнякоў і травінак**
**Узнікае батаніка — стрэмка ліхіх галасоў.**
**Мы нярэдка мяркуем на аснове няясных прагнозаў**
**Аб надвор'і і працы, навуцы і шчасці ў жыцці,**
**А залежым быць можа ад бія- і генацэнозаў,**
**Як залежыў Кашчэй у качкавым бітым яйцы.**
**Так жывая вада ад дажджоў і снягоў Беларусі**
**Трэба нам і раслінам на нашых палях і лясах.**
**Час бяжыць, як вада,**
**Юбілей успаміны варушыць,**
**А ўспамінаў тым болей,**
**Чым больш сівізны ў валасах.**



Гучыць паэтычны радок. Фотаэцюд Ул. КРУКА.

**ВЫЙШЛІ З ДРУКУ**

**ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**

**Я. Колас. На прасторах жыцця. Дрыгва.** Серыя «Бібліятэка беларускай аповесці». Мастак А. Дэмарын. На рускай мове. 1972 г. 288 стар. Тыраж 150 000 экз. Цана 59 кап.

**А. Куляшоў. Далёка да акіяна.** Паэма. Мастак Г. Паплаўскі. 1972 г. 224 стар. Тыраж 10000 экз. Цана 1 руб. 08 кап.

**Ю. Лакербай. Лабірынт.** Вершы. Мастак М. Басалыга. На рускай мове. 1972 г. 88 стар. Тыраж 4000 экз. Цана 30 кап.

**Р. Хацкевіч. На золку.** Аповесць. Мастак Ю. Архіпаў. 1972 г. 192 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 39 кап.

**В. Цельпугоў. Упартая лямпа.** Апавяданні. Пераклад з рускай мовы В. Рудавай. Малюнкі У. Гальдзяева. Вокладка А. Лось. 1972 г. 104 стар. Тыраж 50 000 экз. Цана 36 кап.

**ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»**

**М. Джагараў. На зямлі В'етнама.** (Дарожныя замалёўкі). Мастак В. Масцераў. На рускай мове. 1972 г. 88 стар. Тыраж 14 800 экз. Цана 14 кап.

**У. Ракашэвіч. Пад сцягам братэрства** (1917—1922). Мастак В. Масцераў. На рускай мове. 1972 г. 168 стар. Тыраж 7500 экз. Цана 39 кап.

**А. Кобец-Філімонава. Залаты ручнік.** Вершы. Мастак Н. Паплаўская. 1972 г. 20 стар. Тыраж 50000 экз. Цана 16 кап.

**Сказ пра Палессе.** Фотаальбом. На беларускай, рускай і англійскай мовах. Фотаздымкі В. Бараноўскага. Мастак У. Басалыга. 1972 г. Тыраж 40 000 экз. Цана 2 руб. 42 кап.

**ВЫДАВЕЦТВА «НАРОДНАЯ АСВЕТА»**

**«Залацінкі».** Зборнік. Складальнікі М. Аўрамчык і А. Кудравец. Вокладка мастака В. Юрчанкі. 1972 г. 144 стар. Тыраж 15 000 экз. Цана 41 кап.

**Янка Купала. Жыццё і творчасць.** 1882—1942. Альбом. Склалі І. К. Жыдовіч і Л. Ю. Раманоўская. Мастак В. Харэўскі. 1972 г. 176 стар. Тыраж 24000 экз. Цана 1 руб. 97 кап.

# АГЛЯД ЗАКОНЧЫЎСЯ, АГЛЯД ПРАЦЯГВАЕЦЦА

З 1 ЛІПЕНЯ па 1 снежня 1972 года ў Беларусі праходзіў рэспубліканскі агляд драматургіі і тэатральнага мастацтва, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. Творчыя калектывы падрыхтавалі 16 пастановак, сярод якіх творы рускіх, украінскіх, грузінскіх, эстонскіх, літоўскіх, малдаўскіх, латышскіх аўтараў. Да нас запрашаліся рэжысёры і мастакі з іншых рэспублік. Беларускі тэатр юнага гледача ажыццявіў пастаноўку спектакля «Я даганяю лета» В. Пальчынскайтэ сіламі пастановачнай брыгады з Літоўскай ССР (рэжысёр А. Рагаўскайтэ, мастак В. Гатавінайтэ, балетмайстар Ч. Жабраўскас). У Гродзенскі тэатр для пастаноўкі спектакля «Блудны сын» Р. Блаўманіса быў запрошаны мастак з Латвійскай ССР П. Розенберг, у Брэсцкі абласны тэатр — мастак з Башкірыі Г. Імашава.

Творчы абмен, пастаноўка п'ес драматургаў братніх рэспублік расшырылі творчую палітру выканаўцаў, пазнаёмілі гледачоў з шэрагам своеасаблівых, значных па ідэйнаму зместу і мастацкіх якасцях твораў. У дні святкавання 50-годдзя Саюза ССР тэатры рэспублікі арганізавалі Дэкаду паказу лепшых спектакляў, сустрэчы з працоўнымі на заводах, у калгасах і на прадпрыемствах.

З 20 па 26 лістапада ў Мінску быў праведзены заключны тур агляду.

Азнаёміўшыся з пастаноўкамі, падрыхтаванымі да агляду, камісія рэспубліканскага агляду прысудзіла дыплом I ступені спектаклю Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы «У ноч зацьмення месяца» М. Карыма (рэжысёр Ц. Кандрашоў, мастак А. Грыгар'янц).

Дыпломы II ступені — спектаклям Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя ЛКСМБ «Я даганяю лета» В. Пальчынскайтэ (рэжысёр А. Рагаўскайтэ, мастак В. Гатавінайтэ) і Гомельскага абласнога драматычнага тэатра «Не турбуйся, мама!..» Н. Думбадзе (рэжысёр І. Папоў, мастак А. Кляўзер).

За лепшае выкананне ролі дыплом I ступені прысуджаны: актрысе Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Г. Макаравай за стварэнне вобраза Танкабіке ў спектаклі «У ноч зацьмення месяца» М. Карыма. Дыплом II ступені — актрысе Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага Г. Абуховіч за стварэнне вобраза цётухны Руцы ў спектаклі «Птушкі нашай маладосці» І. Друцэ і акцёру Гомельскага абласнога драматычнага тэатра П. Філіпаву за стварэнне вобраза дзядзі Вано ў спектаклі «Не турбуйся, мама!..» Н. Думбадзе.

Камісія адзначыла таксама паэта А. Вярцінскага за высокую якасць перакладу на беларускую мову п'есы «Я даганяю лета».

Камісія рэкамендавала на Усесаюзны фестываль драматургіі і тэатральнага мастацтва народаў СССР спектаклі: «У ноч зацьмення месяца» М. Карыма (Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы), «Я даганяю лета» В. Пальчынскайтэ (Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача), «Не турбуйся, мама!..» Н. Думбадзе (Гомельскі абласны драматычны тэатр), а таксама работы акцёраў Г. Макаравай (Танкабіке), Г. Абуховіч (цётухна Руца) П. Філіпава (дзядзя Вано).

# КАЛІ АЦІХНЕ СМЕХ...

*«ДОКТАР ФІЛАСОФІІ» Б. НУШЫЧА Ў БЕЛАРУСКІМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ Я. КОЛАСА*

ЗАЛА смяецца. Зала рагоча. Зала апладзіруе.

Вядома — Бранiслаў Нушыч сатырык з'едлівы, дасціпны, вынаходлівы.

Зразумела—камедыю «Д-ррр...» іграюць коласаўцы. Трупа, здатная на сатырычнае відовішча вялікага маштабу.

Калі глядзіш спектакль, бывае, прыгадаеш незабыўнага Аляксандра Ільінскага. Ёсць нешта «ад яго» і ў тым, што і як робяць на сцэне, скажам, Георгій Дубаў або Тадэвуш Кокштыс.

Гэта іх героі і вінаватыя ва ўсім тым скандальным гармідары, што землетрасеннем выбухае ў доме Жываты Цвіёвіча, чалавека дробненькага, але затое з грашыма. Прыйшла яму ў галаву думка набыць сыну дыплом «доктара філасофіі», каб побач з прозвішчам Цвіёвіч абавязкова было пазначана «д-р»! А за грошы ж, мяркуюць такія нувярышы-мільянеры, можна зрабіць што хочаш. Калі сын Міларад кажа бацьку, што яго, уладальніка дыплома, бянтэжыць і «д-р», і «філасофіі», багаты невук тлумачыць: філасофія — гэта балбатня, ты гаворыш — я не разумею, я гавару — ты не разумееш. Важна, каб гэта самае «д-р» было пазначана ў дакуменце. Міларад верыць бацьку. «Д-р» згаджаецца з тым, што ніхто ніколі не выкрые яго «філасофскую» нікчэмнасць...

У спектаклі, пастаўленым рэжысёрам С. Казіміроўскім, галоўнай дзейснай спружынай і з'яўляецца воля гэтага Жываты Цвіёвіча. Так яго і іграе Г. Дубаў—яго герой наіўна верыць, што дыплом і не павінен «адпавядаць» сапраўднасці, важна адно — набыць яго. Прайдзісвет Благае (Т. Кокштыс), які, мабыць, і самому Жываце Цвіёвічу некалі памог «выбіцца ў людзі, якіх паважаюць у Белградзе», знайшоў юнака, Веліміра Паўловіча, здольнага абараніць—пажадана недзе далей ад Сербіі — дыплом «д-ра». Вось гэты юнак і накіраваўся ў Швейцарыю пад імем Міларада Цвіёвіча. Гэта яго розум і купляюць Жывата з Благае.

**Калі адкрываецца заслона, мы бачым велізарную залачоную раму, куды ўстаўлены той запаветны дыплом —пячаткамі і адпаведнымі подпісамі ў ім пацвярджаецца, што Міларад Цвіёвіч «прайшоў» універсітэт і абараніў навуковае званне «д-ра філасофіі». Фальш і падман, якімі славілася буржуазная Югаславія (п'еса Б. Нушыча напісана ў 1936 годзе), тут, у рэспектабельным доме выскачкі-нувярыша, гэтым дыпломам і прыкрываюцца. Дакумент усё апраўдае. Асабліва, калі ён з належнымі пячаткамі і подпісамі!.. Артыст Г. Дубаў прымушае свайго Жывату глядзець на паперу ў рамцы амаль малітоўна. Для яго дыплом даражэй за грошы.**

**Чаму?**

**Жывата збіраецца пажаніць «д-ра філасофіі» Міларада Цвіёвіча з дачкой прэм'ер-міністра Сербіі. Так, не менш! І трэба бачыць, як фанабэрліва і ўпэўнена разважае дубаўскі герой, перабіраючы ўвесь кабінет міністраў: не, для дыпламаванага сына ён «менш», чым на прэм'ера, згоды не дасць. Благае—і гэта па-хлестакоўску легкадумна, але і з дастатковай мерай камедыйнага «сур'ёзу» іграе Т. Кокштыс—і тут бярэцца за справу... Ды толькі няма ў прэм'ера дачкі!**

**Вынаходлівы шэльма Благае адразу ж прапануе вартую багацця і высокага навуковага звання Міларада Цвіёвіча «замену» — дачку міністра шляхоў зносін.**

**Жывата патрабуе «перакласці» пасаду магчымага свайго свата і цесця свайго сына на «рэальныя» каштоўнасці. Калі ласка! Для Благае—Кокштыса маналог пра трансбалканскую чыгунку, пра віядукі і масты, вакзалы і сотні кіламетраў рэек—гэта паэма, натхнёны верлібр!**

**«Ці ты не чуў пра транссібірскую чыгунку?—пытае Благае, калі Жывата недаўмявае, што такое «трансбалканская магістраль». — Пра трансатлантычныя шляхі?.. Транс... Трансільванія... Трансвааль... Калі вымаўляюць «транс» — ведай, гэта вялікае і вельмі выгаднае мерапрыемства!»**

**Тады пачынаюцца разважанні адносна пасагу — колькі кіламетраў чыгункі, віядукаў, мастоў, вакзалаў можа даць міністр, і ў Жываты аж галава кругам... Як хораша ўмее Г. Дубаў перадаваць наіўную веру героя ў «рэальнае шчасце», якое потым аказваецца чарговай афёрай, не больш, і яго Жывата разгублена паглядае на партнёраў і ў залу: спланавана ж усё было найлепшым чынам... Так і іграецца спектакль коласаўцамі: Цвіёвіч разам з Благае самі трапляюць у пастку, якую рыхтавалі з вялікім размахам, з прыцэлам на прэм'ера.**

Змова адбылася. Дубаўскі Жывата Цвіёвіч у думках лётае па тым трансбалканскім шляху, па тых віядуках і мастах. Яго сват — міністр! Хай сабе не прэм'ер, але міністр шляхоў зносін... Вочы гараць, душа спявае. Ну, летуценнік дый годзе! Толькі які карыслівы, які прадбачлівы: калі сын «д-ррр...», дык мы і да віядукаў і розных «трансаў» дацягнемся. Гэтае прадчуванне ўзыходу на алімп багацця і дзяржаўнай велічы іграецца Г. Дубавым вельмі сакавіта. Ад гневу і роспачы (ну, чаму гэта няма дачкі ў прэм'ера!?) да апагею асалоды з прычыны «трансу»—такая амплітуда эмацыянальнага жыцця артыста ў вобразе.

Каб заваяваць прыхільнасць міністра шляхоў зносін і яго дачкі, д-р філасофіі Міларад Цвіёвіч прачытае публічную лекцыю. Пра што? Ды абы пра што! Ёсць жа Велімір Паўловіч, ён і падрыхтуе тэкст. За грошы, зразумела. А Міларду застанецца адно эфектна прачытаць па паперцы чужыя філасофскія разважанні...

Не станем пераказваць усе смешныя перыпетыі камедыі. Скажам, што сатырычны напал твора выдатна падтрымліваюць Г. Дубаў і Т. Кокштыс. Іх героі жывуць у свеце падману, нават не падазраючы, што гэта ненармальна і амаральна. «Ці ж усе дактары вучоныя!—праклямуе сваё жыццёвае крэда Жывата — Дубаў. — Нарадзіўся ліхтаршчыкам, а стаў прафесарам, нарадзіўся шынкаром, а зрабіўся мастаком, нарадзіўся балерынай, а выбіўся ў архімандрыты...»

**Здараецца, Г. Дубаў як бы «выходзіць» з вобраза і, запрашаючы залу падзяліць здзіўленне Жываты, адкрывае для сябе ліхвярства і хабарніцтва, да якіх герой Б. Нушыча нібы яшчэ сам і не апускаўся. Нельга сцвярджаць упэўнена, ці прадугледжаны такія «выхады» рэжысёрскім планам спектакля. Але пакуль што яны выконваюцца мітусліва і выглядаюць выпадковымі. «Адносіны» да адлюстраваных драматургам падзей і нораваў тэатр нідзе больш не дэманструе так «адчужана».**

Сарказм і нават гратэск у прыёмах акцёрскай ігры дарэчы ў выкананні такіх роляў, як прафесійныя ілжэсведкі Сойка і Сіма (В. Петрачкова і В. Зубараў), жонка Міларада — Веліміра швейцарская грамадзянка Клара (Г. Дзягілева), пані Спасаевіч і пані Проціч (Л. Пісарава і Т. Мархель). Тут «адносіны» да персанажаў паглынаюцца знешнім малюнкам і тэмпераментам адкрыта сатырычных сцэнічных партрэтаў. А Сойка і Сіма часам выглядаюць нават буфанаднымі фігурамі. Верыш, што гэтая сямейная пара налаўчылася нажывацца на судовых працэсах, дзе яны выступаюць сведкамі (а для гэтага скасавалі і шлюб свой) па таксе — за «чулі тое і тое», за «бачылі тое і тое» і за «застукалі на месцы»... Акцёры здзекуюцца з гэтай «філасофіі» прыставанцаў і махляроў, і смех, які абуджае ў зале іх ігра,— гэта смех маральных пераможцаў над такой, з дазволу сказаць, «філасофіяй».

**Але побач з такой завострана сатырычнай лініяй паводзін большасці персанажаў спектакля ў Віцебску дысанансам гучыць па-бытавому прыземленае, з разлікам на «праўдападабенства», якое дарэчы ў псіхалагічнай драме, выкананне роляў Мары Цвіёвіч (З. Канапелька), Слаўкі (Г. Кухальская), Веліміра Паўловіча (У. Аносаў). Маці няўдалага «д-ррра...» застаецца чамусьці амаль абыякавай да таго кві-пра-кво, што адбылося ў доме адначасова са з'яўленнем у ім дыплома доктара філафосіі. Сястра «д-ррра...» Слаўка застаецца, як кажуць акцёры, «блакітнай істотай», сатырычная плынь дзеі нібы і не закранае ў выканаўцы ролі акцёрскай фантазіі, здольнай «падключыць» і Слаўку да токаў сапраўды камедыйнага відовішча.**

Яшчэ больш прэтэнзій да рэжысуры і выканаўцы ў сувязі з вобразам Веліміра Паўловіча. Хто ён? У коласаўцаў гэта хутчэй за ўсё амаль абстрактная фігура наогул беднага студэнта, што за грошы паехаў вучыцца замест багатага ёлупа ў Швейцарыю і прывёз у Белград доўгачаканы Цвіёвічамі дыплом «д-ррра...» Калі чытаеш камедыю Б. Нушыча, адчуваеш фігуру больш значную ў камедыйным разгортванні падзей. Гэта, на нашу думку, своеасаблівы вынаходнік розных інтрыг Брыгела (калі, паводле класіфікацыі камедыі дэль артэ, Жывату Цвіёвіча лічыць «Панталоне»). Бо ён жа там, у Швейцарыі, пад імем Міларада Цвіёвіча ажаніўся з нялюбай Кларай, стаў пад тым жа імем бацькам дзіцяці (Міларад—бацька, Жывата—дзядуля, Мара—«грасмутар»!), запрасіў на лекцыю «доктара філасофіі» М. Цвіёвіча сапраўднага доктара з Фрэйбурга Райсера, падсунуў «д-ррру...» бязглуздзіцу, ад якой жахнулася нават дачка міністра шляхоў зносін. Гэта ён так помсціць за сваё прыніжэнне. І робіць усё па законах драматургічнага жанру — як камедыйны персанаж. Ён — завадатар. Ён — аўтар (хай сабе і прымушаны так рабіць жыццёвымі абставінамі) кві-пра-кво ў доме Цвіёвічаў.

**Нічога гэтага няма ў тым персанажы, што іграецца на сцэне коласаўцаў артыстам У. Аносавым. Тут ён бліжэй да той Слаўкі, якую мы назвалі «блакітнай істотай». Яму адведзена незайздросная наогул у камедыі роля чалавека, які... пакутуе. Штосьці неўрастэнічнае з'яўляецца ў гэтым даволі мілым, з абаяльнай усмешкай маладым чалавеку, калі ён... просіць рукі Слаўкі, папярэдне падказаўшы, што і як трэба рабіць Клары. На са-**

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



**Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР пазнаёміў гледачоў з операй сучаснага грузінскага кампазітара А. Тактакішвілі «Міндзія». Рэжысёр спектакля заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР С. Штэйн. Мастацкае афармленне і харэаграфічная частка выкананы пад кіраўніцтвам спецыяльна запрошаных з Грузіі дэкаратара М. Малазонія і балетмайстра М. Ламтацідзе. Дырыжор — народны артыст Украінскай ССР Я. Вошчак.**

**На здымку злева — заслужаная артыстка БССР І. Шыкунова (Мзія) і артыст М. Галкоўскі (Міндзія).**



**Рускі тэатр БССР імя М. Горкага да 150-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага драматурга А. Астроўскага падрыхтаваў спектакль «Гарачае сэрца». Паставіў яго рэжысёр А. Смеляноў. Дэкаратыўнае афармленне Г. Бяляева, музычнае—С. Картэса.**

**Артыстка Л. Арцабасава ў ролі Парашы.**

Фота Ул. КРУКА.

**мой справе гэта таксама будучы нуварыш, а цяпер пакуль што гарэзлівы падманшчык — ён жа стане мужам дачкі Жываты Цвіёвіча і ў яго ўжо ёсць тытул «д-ррра...»! А тэатр ставіцца да гэтага персанажа з нейкім зусім чужым духу сатырычнага відовішча... спачуваннем.**

Так і дзейнічаюць героі на сцэне: адны ў камедыйным шторме на якіх дванаццаць балаў, другія — у штылявым моры.

Да ліку тых выканаўцаў, што не адчулі як мае быць паэтыку і гатунак камедыі Б. Нушыча, мы аднеслі б і артыста М. Цішачкіна. Для яго Мілареда Цвіёвіча чамусьці не стала надзвычайным здарэннем тое, што фармальна ён — доктар філасофіі. Бадзяецца па сцэне пахмурны, а па сутнасці сваёй зусім пасрэдны чалавечак, шэрая фігура маладога п'янюгі. На першы план выйшла нежаданне Мілареда быць доктарам. Артыст не прыслухаўся да тых унутраных матываў у паводзінах героя, якія ўсё ж падштурхнулі яго прачытаць лекцыю, напісаную Велімірам, гэты філасофскі трактат-бязглуздзіцу, з такой звышнавуковай высновай: «У кантэмплятыўным інтуітыўна-віталістычным выкладанні лагацэнтрычных і біяцэнтрычных праблем мы сутыкнуліся з дэрызорнымі прафанацыямі клімактэрычных культур...» Відаць, ён паверыў, што гэтая лухта можа «зачараваць» дачку міністра шляхоў зносін, што гэта і ёсць «філасофія». Відаць быў у яго практычны разлік, калі ён з амбіцыяй узыходзіў на кафедру. Чаму ж тады акцёр малюе абсалютна бляклую істоту з вечна хворай ад пагулянак галавой — і толькі? Па-сцэнічнаму такі Міларад з яго надзвычайным лёсам ніякага дачынення да камедыйнай плыні не мае. Смешны не характар, смешнымі застаюцца толькі сітуацыі, у якія ён трапляе (радуючыся нават таму, што ў яго з Кларай ёсць «законны» сын)... Крыўдны пралік здольнага артыста!

**Дадамо яшчэ — і фінал у С. Казіміроўскага атрымаўся не зусім ясны па рэжысуры, па мастацкіх акцэнтах. Атрымаўся ён прыблізна такім — Жывата Цвіёвіч... радуецца, што ў яго з'явіўся ўнучак Пэпік (сын Клары і Веліміра), ён абяцае ўжо на гэты раз абавязкова зрабіць з Пэпіка Цвіёвіча «д-ррра...», і Г. Дубаў крычыць, каб захавалі рамку ад Міларадавага дыплома. Значыцца, будзе працяг махлярствам... Але гучыць гарэзлівая музыка, праз усю сцэну Пэпік з калясачкі пускае празрысты струменьчык, заслона апускаецца і, як калісьці пісаў адзін крытык, артыкул мой канчаецца.**

Мабыць, варта С. Казіміроўскаму па-творчы пераглядзець некаторыя моманты сапраўды вострага і смешнага сатырычнага відовішча, прывесці да ладу пэўную стылістычную стракатасць і даць дакладны фінальны акцэнт. Магчыма, варта ў такім выпадку і паспрачацца з некаторай «паблажлівасцю» аўтара да героя, бо камедыя Б. Нушыча дарагая нам не дзіўнаватай сімпатыяй драматурга да Жываты Цвіёвіча, а выкрыццём маралі ўсіх такіх жыватаў цвіёвічаў. Але пра гэта ведае рэжысёр спектакля і пэўныя пралікі яго пастаноўкі «Доктара філасофіі» я асабіста аднощу на рахунак празмернай павагі і нават піэтэту да літары, што належыць пяру выдатнага камедыёграфа.

**Барыс БУР'ЯН.**

З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

# ЗА ШЧАСЦЕ, ЗА ВОЛЮ!

*ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ОПЕРА — «МІХАСЬ ПАДГОРНЫ» Я ЦІКОЦКАГА*

ВЕЛІЧНЫ гмах новага музычнага тэатра на плошчы імя Парыжскай камуны ў Мінску яшчэ будаваўся. А калектыў ужо думаў, чым пачаць першы сезон. Зразумела, і артысты, і рэжысура марылі пра нацыянальны оперны спектакль. Высветлілася, што кампазітар Яўген Карлавіч Цікоцкі ўнутрана быў падрыхтаваны да таго, каб паспрабаваць свае сілы ў гэтым складаным жанры. Помню, як на пачатку трыццаць сёмага года па тэатры пранеслася радасная вестка: ёсць кампазітар! А лібрэтыст?

Літаратурны твор для оперы пішацца па сваіх спецыфічных законах тэатральнай драматургіі, да таго ж з'явілася думка пра пэўную тэму будучага спектакля — рэвалюцыя, беларускія працоўныя ў змаганні за шчасце, за волю. Зразумела, такую тэму мог распрацаваць паэт, які мысліць вобразамі, прыдатнымі дляопернага твора. Хтосьці назваў імя Петруся Броўкі. І тэатр наладзіў кантакт паміж кампазітарам і паэтам.

Мабыць, гэта быў шчаслівы выбар. Пётр Усцінавіч прапанаваў кампазітару і мастацкаму савету тэатра план цікавага і жыццёвага лібрэта. Драма батрака Міхася і сялянскай дзяўчыны Марысі, шчасцю якіх перашкаджае кулак Змітрок Закрэўскі, адразу ж была ўспрынята як вострая сюжэтная лінія. Падзеі адбываліся ў час пераходу ад імперыялістычнай вайны да рэвалюцыі і вайны грамадзянскай. Паэт прапанаваў масавыя сцэны, у якіх была і лірыка, і драматызм. Радавала і тое, што Пятрусь Броўка, як знаўца фальклору, называў песенныя ўзоры народнай творчасці, якія потым арганічна ўвайшлі ў тканіну оперы.

Кампазітар карыстаўся запісамі народнага меласу і парадамі Н. Сакалоўскага, І. Любана, супрацоўнікаў АН БССР. І асабістыя ўспаміны Я. Цікоцкага пра падзеі вайны і рэвалюцыі, удзельнікам якіх ён быў, давалі каштоўны матэрыял для лібрэта і музыкі.

І вось надышоў дзень, калі ў сціплым кабінеце дырэктара тэатра (ім тады быў аўтар гэтых нататак) на вуліцы Урыцкага, 13, адбылося выкананне першага акта оперы «Міхась Падгорны». За піяніна сядзеў вельмі ўсхваляваны Яўген Цікоцкі. Партыю Міхася Падгорнага выконваў малады студэнт кансерваторыі Дзмітрый Лукас (цяпер ён вядомы кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР). Мастацкі савет прыняў першы эскіз будучай оперы. Пазней адбылося выкананне гэтай часткі музычнага твора на сцэне Першага БДТ з хорам і аркестрам.

Вялікую дапамогу наш калектыў атрымаў тады ад выдатнага рускага дырыжора Мікалая Сямёнавіча Галаванава і славутай спявачкі Антаніны Васільеўны Няжданавай. Мы запрасілі іх на кансультацыю гэтага твора. Іх тактоўныя парады, іх павага да літаратурна-музычнай асновы опернага спектакля садзейнічалі нараджэнню першай беларускай оперы. Выканаўца галоўнай жаночай партыі ў спектаклі Ларыса Пампееўна Александроўская падкрэслівае, што М. Галаванаў і А. Няжданава «...выхоўвалі нас у вялікіх традыцыях рускага мастацтва, памагалі авалодаць музычнай культурай і асновамі рэалістычнага метаду...»

І сапраўды, садружнасць была вельмі плённая.

Прыгадаем, што опера, як і спектакль, мелі не адну кампазітарскую і рэжысёрскую рэдакцыю. Першы варыянт быў пастаўлены Л. Літвінавым, рэжысёрам Першага БДТ. Потым пастановачная партытура спектакля была нанава перагледжана выхаванцам Ул. Неміровіча-Данчанкі рэжысёрам рускай савецкай оперы П. Златагоравым. Маштабнасць і народны размах падзей, адлюстраваных у оперы «Міхась Падгорны», у нечым былі вельмі блізкія духу і сутнасці оперы «Ціхі Дон» І. Дзяржынскага, якую П. Златагораў разам са сваім настаўнікам ставіў у Маскве ў 1936 годзе.

Рэжысура і выканаўцы беражліва захоўвалі і перадавалі хараство музыкі Я. Цікоцкага. Слухачы і крытыка адзначалі яе драматызм і выразны нацыянальны каларыт, а кампазітар Д. Кабалеўскі, рэцэнзуючы спектакль «Міхась Падгорны» ў «Правде» 6 чэрвеня 1940 г., знаходзіў, напрыклад, у музычным пераасэнсаванні народнай тэмы Я. Цікоцкім пэўнае падабенства з гучаннем вядомай сімфоніі А. Барадзіна.

Опера з трыумфам выконвалася ў Маскве ў час першай Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры. Слухачы ў Мінску і сталіцы нашай краіны горача віталі Л. Александроўскую ў партыі Марысі (за выкананне гэтай ролі спявачка пазней атрымала Дзяржаўную прэмію СССР). Тэмпераментна і па-сцэнічнаму выразна вёў партыю Міхася Падгорнага В. Лапін. З поспехам выступалі салісты В. Валчанецкая (Ганка), П. Засецкі (Мартын), М. Дзянісаў (Закрэўскі), І. Мурамцаў і Л. Кцітараў (Анішчук). Дырыжыраваў операй М. Шнейдэрман. Яркае афармленне належала выдатнаму дэкаратару Б. Волкаву.

Поспех тэатра быў асабліва радасны таму, што з першых гадоў Савецкай улады грамадскасць рэспублікі чакала і верыла, што і ў галіне опернага мастацтва з'явяцца арыгінальныя творы. Так яно і было. Кампазітары Я. Цікоцкі, А. Туранкоў, А. Багатыроў, М. Крошнер разам з лібрэтыстамі-пісьменнікамі П. Глебкам, Я. Рамановічам, М. Клімковічам і іншымі аўтарамі плённа пачалі працаваць у жанры музычнай драматургіі. І прэм'ера оперы «Міхась Падгорны» была як бы першай ластаўкай вялікай творчай вясны беларускай оперы.

...Пра ўсё гэта мне нагадала ўбачаная ў архіве фатаграфія, на якой народныя артысты СССР А. Няжданава і М. Галаванаў — сярод удзельнікаў першай пастаноўкі оперы «Міхась Падгорны».

**А. ГАНТМАН.**



Здымак тых часоў. Народныя артысты СССР А Няжданава і М. Галаванаў сярод дзеячоў беларускага тэатра. (З архіва аўтара артыкула).

ПА СТАРОНКАХ ЧАСОПІСАЎ

# ПРАЗ ПЯЦЬ ГАДОЎ...

*Так названы артыкул кандыдата мастацтвазнаўства І. Шостак пра гастролі Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, надрукаваны ў першым нумары часопіса «Театр» за 1973 г. Аўтар аналізуе спектаклі, якія купалаўцы паказвалі летась на гастролях у Маскве. Як вядома, яны адбыліся ў сувязі з фестывалем тэатральнага мастацтва краіны, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР.*

*Артыкул аналізуе спектаклі па арыгінальных драматычных творах; яны, на думку аўтара, зноў пацвердзілі высокую рэпутацыю тэатра, які ўмее працаваць з аўтарамі зацікаўлена і плённа. Падкрэслена таксама сапраўды творчая садружнасць сталай рэжысуры. Пад кіраўніцтвам вопытнага Ц. Кандрашова «выраслі маладыя яркія індывідуальнасці — Валерый Раеўскі і Барыс Луцэнка». Далей разглядаюцца пастаўленыя імі спектаклі — «Раскіданае гняздо», «Трыбунал», «Зацюканы апостал». У купалаўскай драме тэатр раскрыў народную трагедыю, убачыў за бытавой праўдай адлюстраванага жыцця змястоўны філасофска-сацыяльны змест, які гучыць яшчэ больш выразна, бо падкрэсліваецца ўведзенымі ў тканіну твора вершамі паэта. У «Трыбунале» купалаўцы дэманструюць народнасць свайго мастацтва — «у характарах дзейных асоб, у падкрэсленай строгасці мастацкага афармлення, у музыцы, што суправаджае дзею». У «Зацюканым апостале» крытык падкрэслівае «сатырычную рэзкасць, нават грубаватасць ацэнак, што ўласціва гэтай п'есе А. Макаёнка, публіцыстычны пафас, прасякнуты горкім пачуццём савецкага мастака, які задумаўся пра лёс цывілізацыі ў сучасным капіталістычным свеце».*

*І. Шостак аналізуе лепшыя акцёрскія работы майстроў сцэны і артыстычнай моладзі. Даецца ацэнка спектаклям «Апошняя ахвяра» А. Астроўскага і «Ноч зацьмення месяца» М. Карыма.*

*Сярод крытычных заўваг, зробленых у адрас тэатра, варта звярнуць увагу на такую. У рэпертуары купалаўцаў яшчэ рэдка сустракаеш творы драматургаў братніх рэспублік. Пасля пастаноўкі драмы «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» Н. Думбадзе і Г. Лордкіпанідзе прайшло шэсць гадоў, на працягу якіх калектыў не паказаў ні адной п'есы, напрыклад, літоўскіх або латышскіх пісьменнікаў. Між тым, заўважае аўтар, «паэт, імя якога носіць тэатр, моцна сябраваў з Я. Райнісам...»*

*У лепшых пастаноўках, паказаных у Маскве, крытык адзначае цудоўны сцэнічны ансамбль выканаўцаў. Гэта характэрна і для «Людзей на балоце» І. Мележа, спектакля, які «больш за пяць гадоў карыстаецца заслужаным поспехам».*

*Парушаючы звычку абмінаць якасць перакладаў п'ес на нацыянальную мову, І. Шостак гаворыць пра сапраўдную асалоду, што даюць пераклады на беларускую мову Я. Скрыгана («Апошняя ахвяра») і Ул. Караткевіча («Ноч зацьмення месяца»).*

*Часопіс называе выступленне купалаўцаў у Маскве адказным экзаменам, які завяршыўся поспехам «сапраўдным, буйным, агульнапрызнаным», і адзначае, што такі поспех абавязвае тэатр працаваць па вышэйшых ідэйна-мастацкіх крытэрыях.*

**І. В.**

# МАСТАК НА ПУБЛІЦЫСТЫЧНАЙ ТРЫБУНЕ

У МІНУЛЫМ месяцы адбыліся дзве прэм'еры аб'яднання тэлевізійных фільмаў студыі «Беларусьфільм» — паказаны трохсерыйная мастацка-публіцыстычная стужка «Вашынгтонскі карэспандэнт» і двухсерыйная «Тыя, што ідуць за гарызонт». Гэта розныя творы не толькі па зместу і форме, але і па прынцыпах мастацкага ўвасаблення. І ўсё ж мне хочацца іх супаставіць. Не толькі таму, што яны створаны ў адным аб'яднанні. Абодва фільмы зроблены рэжысёрамі, якія лічыліся пачынаючымі. Да таго ж у стужках выразна адчуваеш імкненне аўтараў спалучыць мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці з публіцыстычнай яснасцю і тэмпераментам.

«ВАШЫНГТОНСКІ карэспандэнт» ужо атрымаў станоўчы водгук гледачоў і прэсы. Сацыяльныя канфлікты, якія раздзіраюць самую буйную ў свеце імперыялістычную дзяржаву — Злучаныя Штаты Амерыкі — перададзены тут у вельмі істотных момантах. Фільм пабудаваны на звестках відавочцаў. Скарыстаны матэрыял савецкага журналіста М. Сагацяляна, які больш пяці год быў карэспандэнтам ТАСС у Вашынгтоне. І вось ён разам з рэжысёрам дакументальнага кіно І. Менджарыцкім напісаў сцэнарый тэлевізійнай стужкі.

Па-публіцыстычнаму выразны роздум аб сённяшнім дні капіталістычнага свету аўтары падмацоўваюць кінахронікай амерыканскага жыцця, кінакадрамі, у якіх адлюстраваны «будзённыя» з'явы і «гарачыя пункты краіны».

Рэжысёр Юрый Дубровін не парушыў прапанаванага сцэнарыстамі спалучэння ігравых сцэн з дакументальнымі кадрамі. Гэта ў многім і абумовіла публіцыстычную вастрыню і мастацкую пераканаўчасць.

**Маючы грунтоўную літаратурную аснову, пастаноўшчык і ўся здымачная група імкнуліся не толькі перадаць пэўны змест і логіку падзей, але і выявіць у іх глыбінны сэнс. У адных выпадках вуснамі галоўнага героя даецца фармуліроўка такога сэнсу, у другіх — падводзяцца пэўныя асновы і абагульненні.**

**Пачынаючы кожную серыю своеасаблівай «кіназаставкай» — дакументальнымі кадрамі шэсця «гёрлз» у суправаджэнні песні дзелавых клубаў Амерыкі «Якая цудоўная сёння раніца, якія цудоўны будзе дзень»,— аўтары нібы гавораць: прыглядзецеся, што тоіцца за парадным фасадам Амерыкі.**

Драматызм жыцця ва ўмовах «амерыканскага раю» адчуваеш з першых эпізодаў фільма. Асабліва запамінальныя кадры кінахронікі, калі ўдзельнікі вайны ў В'етнаме зрываюць з сябе ўзнагароды і кідаюць іх за агароджу Белага дома, потым дэманстранты спальваюць паласаты амерыканскі флаг. З якой сілай яны гучаць сёння, гэтыя кадры!

Адчуваннем напружанасці, нейкай узвінчанасці атмасферы, якая пануе ў краіне, прасякнуты таксама ігравыя сцэны. Задоўга да таго, як адбудзецца «злачынства веку» — забойства прэзідэнта Джона Кенедзі — і пачнецца вострыя сутычкі-дыялогі ў прэс-холе. Мы адчуваем, што савецкі журналіст Пётр Громаў (яго ролю выконвае Усевалад Сафонаў) знаходзіцца нібы на вулкане, які з мінуты на мінуту можа выбухнуць. І пасля некаторых сцэн — «пікіроўкі» журналістаў, пытанняў і адказаў за чашкай кавы ці кактэйлю — ён усё ж выбухае... забойствам Джона Кенедзі. А пасля — Марціна Лютэра Кінга і Роберта Кенедзі.

Паміж гэтымі паваротнымі для ўчынкаў многіх герояў з'явамі на экран урываюцца кадры «работы амерыканскіх хлопцаў» у В'етнаме — жудасныя па сваёй жорсткасці.

У кадры і па-за кадрам — усюды напружаная атмасфера. «Квасныя» патрыёты Амерыкі не хочуць прызнаваць ісціны, ва ўсім бачаць «акцыю камуністаў». Пад перакрыкаванымі стрэламі пытанняў апынуўся савецкі журналіст. Аўтары не імкнуліся паказаць яго толькі ў часе непасрэдна карэспандэнцкай работы. Іх цікавілі сутыкненні розных поглядаў на драматычныя падзеі, рэакцыя на іх прадстаўнікоў амерыканскай грамадскасці.

Па-рознаму разумеюць яны свой «патрыятызм», не ўсе разбіраюцца ў сэнсе таго, што адбываецца ў краіне. У выніку спалучэння ігравых эпізодаў і кінахронікі ствараецца сацыяльны пласт сучаснай Амерыкі. Як ні цяжка тут прабіцца да ісціны, але да яе прабіваецца не толькі савецкі журналіст. Тое-сёе пачынаюць разумець і самі амерыканцы, такія, як Марк Чэстар (Г. Якаўлеў), Пінтар (С. Байкоў). Нават Уолтэр Донаван (У. Эрэнберг), амерыканскі аглядальнік нумар адзін, пачынае разумець, што яго краіна пастаўлена перад фактам грамадзянскай вайны.

Савецкі карэспандэнт з'яўляецца сведкам таго, як адна ўжо толькі спроба разабрацца ў ісціне можа каштаваць жыцця. Такі лёс напаткаў журналістку Дорацi Сцівенс (З. Славіна). Гэта яна дамагалася сустрэчы з Рубі, які нібыта застрэліў Лі Освальда. Амаль тры гадзіны гутарыла яна з ім (у Амерыцы ж ёсць «свабода слова»), а потым... «скончыла жыццё самагубствам».

**Мы можам прыгадаць шмат фактаў, якія давалі падставу аўтарам менавіта такім чынам завяршыць лінію аднаго героя фільма. Аднак мастацтву патрэбна і іншая аснова — эмацыянальна-псіхалагічная. Яе, мне здаецца, якраз і не хапае. Штуршком для збавення Дорацi ад ілюзій з'яўляецца недарэчная смерць брата ў В'етнаме. Потым рэакцыя на тое, што перад сустрэчай з Рубі яе абшукваюць. І вось — паведамленне ў прэс-холе: Дорацi Сцівенс ужо няма... Такія «пункцірныя» матывіроўкі можна заўважыць і ў некаторых іншых сюжэтных калізіях. І тады застаецца верыць аўтарам на слова. У той жа час і разумееш іх: бо ў такім перапляценні падзей вельмі цяжка прасачыць за лёсамі герояў, яны дамалёўваюцца намі за кадрамі.**

Што датычыць галоўнага героя — вашынгтонскага карэспандэнта Пятра Громава, то яго вобраз цэласны і акрэслены. Партыйная загартоўка, вытрымка, імгненная рэакцыя на падзеі, уменне разабрацца ў складаных сітуацыях — гэтыя рысы Громава былі важнейшымі для рэжысёра Ю. Дубровіна і выканаўцы ролі артыста У. Сафонава. Паказалі яны і тое, што за плячыма героя — вялікі не толькі журналісцкі, але і жыццёвы вопыт.



Кадр з фільма «Вашынгтонскі карэспандэнт».

Гэты немалады ўжо чалавек, відаць, ведаў і многае іншае на сваім шляху.

У рэжысёра і аператара быў вялікі клопат, каб арганічна аб'яднаць дакументальныя кадры з ігравымі сцэнамі. Задача гэта вырашана, па-мойму, даволі паспяхова. Іншы раз нават цяжка адрозніць хроніку ад кадраў «пад яе». Асобныя сцэны пастаўлены Ю. Дубровіным і зняты І. Рамішэўскім не толькі «пад дакумент», але і цікава, з глыбокай выяўленчай распрацоўкай.

«Вашынгтонскі карэспандэнт» заваяваў вялікую папулярнасць у гледачоў.

ДРУГАЯ ПРЭМ'ЕРА — «Тыя, што ідуць за гарызонт» (сцэнарый А. Куваева, пастаноўка М. Калініна, аператар Д. Зайцаў). Гэта фільм пра нашых сучаснікаў — цудоўных, шчодрых, добрых. У цэнтры апавядання — студэнт-географ, аматар спорту Аляксандр Івакін (артыст І. Гаўрылюк). На шляху да сваёй мэты ён выпадкова траціць зрок... Цяжка чалавеку апынуцца ў такім становішчы, а спартсмену ўдвая. Ёсць у фільме запамінальны эпізод. Да Івакіна вяртаецца зрок. Здзейснілася ягоная мара. Як сімвалічная дэталь, ляцяць птушкі. І ў чалавека нібы таксама выраслі крылы...

Знаёмімся мы і з іншымі персанажамі — няўрымслівым трэнерам Нікадзімычам (артыст М. Крукаў), прыгажуняй Ленай (І. Азер) і інш.

Хораша зняты пейзажы, шырока адлюстравана на экране багацце нашай прыроды. Прываблівае меладычная музыка С. Пажлакова. Многае зроблена ўдала і выразна. І ўсё ж не поўнага задавалення ад фільма няма. Калі сказаць проста, фільм не вельмі хвалюе, бо ён пазбаўлены таго эмацыянальнага напалу, без якога не можа быць поўнай удачы.

Калі я чытала літаратурны сцэнарый А. Куваева, то адчувала нейкі настрой, своеасаблівая атмасфера, рамантычная ўзнёсласць герояў. Былі, праўда, у драматургіі і супярэчлівыя, непераканаўчыя моманты. У фільме ўзнёсласць саступіла месца мэтанакіраванай рэжысёрскай упартасці, а трывога за героя, па сутнасці, знікла, бо мы ведаем са слоў урача, што праз два гады да Івакіна вернецца зрок. У сцэнарыі ён не мог убачыць птушку (сваю мару), а ў фільме яна паўстае перад ім ва ўсёй яе прыгажосці. Штучная перавага экраннага вобраза перад літаратурным! Бо глядач перастае хвалявацца за лёс чалавека, здагадваючыся, што «птушка» — сімвал яго абавязковай перамогі.

**Мне даводзілася пісаць аб папярэднім фільме М. Калініна і Д. Зайцава «Рудабельская рэспубліка». Было за што папракаць іх і драматурга М. Фігуроўскага. І было чым зацікавіцца ў «Рудабельцы». Пры ўсёй стылёва-жанравай неаднастайнасці адчувалася вастрыня класавай барацьбы, вобраз «астыглай зямлі», за якую змагаліся беларускія сяляне, загартаваны характар бальшавіка Аляксандра Салаўя.**

**У фільме «Тыя, што ідуць за гарызонт» ёсць учынкі героя, яго намеры, дзеянні, прыемны выгляд і многае іншае. Аднак да індывідуальнага, па-мастацку пераканальнага характару ён не ўзнімаецца. Герой выконвае адведзеныя яму сюжэтам функцыі, а як характар ён не набывае сваёй непаўторнасці.**

Прыгадаем хоць бы некаторыя сцэны фільма. Пасля выпадку на трасе траўміраваны Івакін—у бальніцы. Да яго прыходзяць таварышы, трэнер, каханая дзяўчына. Да ўсіх ён абыякавы. Толькі дзённік Шыванозава цікавіць яго. І ў далейшым рэжысёр выяўляе, а іншы раз і дэманструе «адну палымяную страсць» героя — адкрываць белыя плямы на карце. А хацелася б увагі і да ўнутранага свету, больш тонкай распрацоўкі ўзаемадносін Івакіна з людзьмі, перш за ўсё з Ленай, Нікадзімычам (скажам, на ўзроўні ўзаемаадносін з Празрачным—Ю. Ганчаровым).

Ды і матывіроўкі хацелася б бачыць больш грунтоўныя, чым такія, як, напрыклад: прыйшоў трэнер да хворага Івакіна з «пахучай маззю», нацёр яго, і той зноў выйшаў на трасу... А псіхалагічны бар'ер?

Такі схематызм у вырашэнні сітуацый не спрыяе пераканаўчасці фільма, хоць у іншых сцэнах і адчуваецца яснасць задачы, якую паставіў перад сабой рэжысёр. Таму сочыш больш за знешнім малюнкам, чым за ўзаемаадносінамі людзей.

ДВА НОВЫЯ фільмы, з якімі пазнаёміўся тэлеглядач, — творы не аднолькавыя і не простыя для аналізу.

Аднак пры ўсіх творчых праліках новыя работы беларускіх кінематаграфістаў маюць важнае ідэйна-мастацкае значэнне, бо ў іх закранаюцца актуальныя тэмы сучаснасці. Публіцыстыка ў названых стужках уваходзіць арганічна ў мастацкую плынь твораў і не мае нічога агульнага з прыкрай рыторыкай. Гэта — вартасць сапраўдная, каштоўная.

**Е. БОНДАРАВА,**
кандыдат філасофскіх навук.

# БАЛАДА АБ МУЖНАСЦІ

У Дзяржаўным камітэце Савета Міністраў СССР па кінематаграфіі адбыўся прагляд фільма «Балада аб мужнасці і любві», створанага творчым аб'яднаннем «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». На праглядзе былі Маршал Савецкага Саюза І. Х. Баграмян, генерал арміі В. В. Курасаў, работнікі Дзяржкамітэта, кінарэжысёры і аператары, работнікі пастаяннага прадстаўніцтва Савета Міністраў БССР, былыя партызаны.

Фільм прысвечаны партызанскаму руху ў Беларусі. Полацка-Лепельская зона, дзе ў тыле 3-й танкавай арміі акупантаў сканцэнтравалася некалькі партызанскіх брыгад, стала «партызанскай рэспублікай» з цэнтрам ва Ушачах. Аўтары кінабалады А. Вялюгін, М. Таратскевіч, рэжысёр-аператар І. Вейнаровіч расказалі ў сваёй рабоце аб мужнасці партызан і іх любві да Радзімы.

У творчым абмеркаванні фільм атрымаў добрую ацэнку.

У гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА Маршал Савецкага Саюза І. Х. Баграмян сказаў:

— Беларускім кінематографістам удалося стварыць значны па маштабнасці фільм. Гэта карціна раскрывае яшчэ адну слаўную старонку ў гісторыі барацьбы народных мсціўцаў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гэтыя кінакадры ваенных аператараў вяртаюць нас да падзей тых гадоў, даюць ясней уявіць абаявым шляху атрадаў і брыгад Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. Думаю, гледачы прымуць фільм з вялікай цікавасцю...

Адбудзецца грамадскі прагляд фільма і ў Мінску.

# ПАЧАТАК ЦІКАВЫ, КАРЫСНЫ

АФІШЫ абвясцілі — Акадэмічны тэатр оперы і балета БССР наладжвае незвычайны і даволі нечаканы для гэтага творчага калектыву цыкл — «Канцэрты камернай музыкі». Падзея, якая ўсхвалявала аматараў музыкі.

У оперным тэатры ёсць вялікая група таленавітых выканаўцаў — спевакоў і інструменталістаў. Іх творчыя магчымасці такія значныя, што не вычэрпваюцца ўдзелам у спектаклях асноўнага рэпертуару. А для шліфоўкі выканаўчага майстэрства і захаванні яго на высокім узроўні вельмі карысна адначасова з маштабнымі партыямі правяраць сябе, выконваючы камерны рэпертуар. Гэта ўзбагачае палітру артыста, надае творчасці шматгранны характар і жанравую разнастайнасць.

**Камерная музыка неяк апынулася ў нашы дні крыху ў ценю. А тут накоплены вялікія мастацкія багацці і каштоўнасці, якія папаўняюцца новымі творамі сучасных кампазітараў. Раскрыць старонкі «летапісу камернай музыкі» — высакародная задача.**

**Цыкл камерных канцэртаў сведчыць аб тым, што кіраўніцтва тэатра дапытліва шукае і знаходзіць новыя формы работы з гледачамі. Праграмы ж камерных канцэртаў будуць, несумненна, складацца не ізалявана, а ў той ці іншай сувязі з асноўнай дзейнасцю тэатра.**

Першы канцэрт адбыўся 2 лютага і сабраў даволі шматлікую аўдыторыю аматараў камернай музыкі, якія запоўнілі некалькі радоў крэслаў вакол раяля ў фае тэатра. Такім чынам, не толькі праграма канцэрта, але і абстаноўка музіцыравання была камернай. Праграма складалася з твораў выдатнага савецкага кампазітара народнага артыста Грузінскай ССР, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР Атара Тактакішвілі.

Як вядома, оперны тэатр падрыхтаваў оперу А. Тактакішвілі «Міндзія». Кампазітар прыехаў у Мінск для ўдзелу ў заключнай стадыі работы над спектаклем. Прысутнасць А. Тактакішвілі і яго ўдзел у якасці піяніста надалі і камернаму канцэрту атмасферу асаблівай святочнасці і значнасці.

**Вакальная музыка А. Тактакішвілі была прадстаўлена рамансамі на вершы А. С. Пушкіна і грузінскіх паэтаў. Тут дастаткова поўна раскрыліся прывабныя рысы вялікага таленту грузінскага кампазітара. Яго музыка меладычная, ясная па фактуры, простая і даступная, часта зусім свежая па мове і вобразах. Кампазітар валодае дасканалым майстэрствам, якое дазваляе яму надаваць сваім творам завершаную форму, ладную, канструкцыйна цэльную і старанна адшліфаваную ў дэталях.**

У музыцы на вершы грузінскіх паэтаў адчуваецца выразны нацыянальны каларыт. Пушкінскія рамансы — блізкія традыцыям рускай класічнай музыкі. Варта, напрыклад, адзначыць, што ў рамансе «Зімняя дарога», які мае інтэрпрэтацыі і іншых кампазітараў (Г. Свірыдава, скажам), знойдзены арыгінальныя фарбы, адчуваецца ўзрушаны тэмперамент грузінскага майстра. Перл рускай паэзіі набыў новае гучанне.

Рамансы А. Тактакішвілі выканалі маладыя артысты оперы, лаўрэаты ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў Міхаіл Зданевіч (бас), Аляксандр Рудкоўскі (тэнар) і Валерый Кучынскі (барытон). Яны старанна падрыхтавалі і з захапленнем праспявалі сваю праграму. Адчувалася, што ім вельмі імпануе сумеснае музіцыраванне з кампазітарам, які выконваў фартэпіянную партыю.

**Парадавала слухачоў і выступленне новай салісткі тэатра — народнай артысткі Украінскай ССР, лаўрэата ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў Галіны Паліванавай (сапрана). Яе выкананне рамансаў на вершы С. Чыкавані вызначалася чароўнымі і тонкімі вакальнымі фарбамі, высокім майстэрствам і захапляючым артыстызмам.**

**З інструментальных твораў А. Тактакішвілі ў канцэрце прагучалі другая частка Санаціны для флейты і фартэпіяна (выканаўцы — артыст аркестра Іван Пляшкевіч і аўтар) і дзве п'есы са скрыпічнай сюіты: «Калыханка са слязьмі» і «Бурлеска». У гэтых кантрастных п'есах вельмі яркі грузінскі нацыянальны каларыт, эфектна выкарыстаны прыёмы ігры на грузінскіх народных інструментах. Абедзве п'есы з бляскам і віртуозным майстэрствам выканаў заслужаны артыст БССР Леў Гарэлік. Яго дастойным партнёрам быў піяніст Валерый Крыштопенка, музычны кіраўнік канцэрта, які правёў вялікую арганізацыйную і рэпетыцыйную работу па падрыхтоўцы ўсёй праграмы.**

Канцэрт падарыў слухачам яшчэ адзін прыемны сюрпрыз — А. Тактакішвілі сыграў толькі што напісаную ім фартэпіянную сюіту. Адбылася прэм'ера. Задума твора, на нашу думку, надзвычай арыгінальная — музыка перадае хараство гучання грузінскіх народных інструментаў. Чангуры (струнны шчыпковы) і саламуры (духавы, блізкі да беларускай дудачкі) — у першай частцы; пандуры (шчыпковы) — у другой; дудкі (духавы) — у трэцяй; долі (ударны, тыпу двухбаковага цыліндрычнага барабана). Шмат знаходак і ў галіне фартэпіяннай тэхнікі і фактуры. Асноўная вартасць сюіты — у жыццёвай сакавітасці вобразаў і тэм. Аўтар паказаў сябе і як выдатны піяніст, эмацыянальны, узрушаны.

Праграма і асабліва выступленне Атара Васільевіча Тактакішвілі прымалася вельмі добра. Адбылося своеасаблівае музычнае свята. Канцэрт можна лічыць удалай прэлюдыяй да прэм'еры оперы «Міндзія», што адбылася ў наступны вечар, і да ўсяго сёлетняга цыкла камернай музыкі ў оперным тэатры.

**Л. АЎЭРБАХ.**



[illegible] Літаратуры и мастацтва с пожеланиями благополучия и счастливой жизни О. Тактакишвили 2/II 1973 г.

Кампазітар А. Тактакішвілі (першы злева) сярод мінскіх музыкантаў.

НА ТЫМ ТЫДНІ ў зале філармоніі адбыўся канцэрт Дзяржаўнага народнага аркестра БССР. За параўнальна невялікі прамежак часу (у апошні раз з сольнай праграмай аркестр выступаў 1 кастрычніка мінулага года) быў падрыхтаваны зусім новы рэпертуар. І гэта пры тым, што ў апошні час аркестр вельмі многа гастраляваў. Толькі 22 студзеня вярнуўся з гастрольнай паездкі па Гродзенскай вобласці.

# СТРУНА І ГОЛАС

І на гэты раз у праграме вялікае месца адведзена беларускай музыцы. Упершыню мы пачулі з канцэртнай эстрады «Уверцюру» С. Картэса. Затым былі выкананы дзве часткі другой сімфоніі Р. Пукста (Андантэ і Скерца).

Цікава прагучалі ў пералажэнні для народнага аркестра творы кампазітараў-класікаў — «Багатырскія вароты» М. Мусаргскага і музычная карціна «Садко» М. Рымскага-Корсакава. Асабліва ярка, рэльефна, з багатай нюансіроўкай быў выкананы апошні твор. У ім ярка праявіў сябе малады дырыжор Міхаіл Казінец, які ад выступлення да выступлення набывае ўпэўненасць і артыстызм.

У канцэрце з аркестрам выступілі салісты Беларускага опернага тэатра — лаўрэат Усесаюзнага конкурсу Інеса Адзінцова і лаўрэат міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага Аляксандр Рудкоўскі, а таксама салістка філармоніі Вольга Шутава.

**І. Адзінцова на гэтым канцэрце адчувала сябе ў звыклай абстаноўцы: да пераходу ў оперны тэатр яна працавала салісткай народнага аркестра. Нязвыклым для публікі, ды і для салісткі быў спеў у мікрафон. У гэтым не было ніякай неабходнасці, таму што спявачка мае голас дастатковай сілы, які можа прагучаць ва ўсякай зале з усякім аркестрам. Тое ж самае трэба сказаць і аб А. Рудкоўскім. Толькі В. Шутавай неабходны быў мікрафон, якім яна не заўсёды ўмела карысталася. Ад гэтага цярпеў яе ансамбль з аркестрам: голас гучаў настолькі моцна, што перакрываў гучанне аркестра. Думаецца, што ў далейшым наўрад ці мэтазгодна чаргаваць выканаўцаў класічнага і народнага спеву — вельмі ж розныя стылі і манера выканання.**

Аднак, першае выступленне Вольгі Шутавай з аркестрам трэба прызнаць паспяховым. Беларуская народная песня «Дубочак зялёненькі», «Мяцеліца» М. Шуміліна, а таксама руская вядомая песня «Мне без валёнак бяда» былі выкананы артысткай эмацыянальна і вельмі вобразна. Сцэнічныя паводзіны Шутавай, свабодныя і натуральныя імпаніравалі гледачам. Без сумнення, у будучым яе чакаюць новыя цікавыя выступленні з гэтым калектывам.

І. Адзінцова выканала ў канцэрце чатыры творы вельмі розныя па стылю і далёка не раўназначныя па сваіх мастацкіх вартасцях. Услед за лірычнай песняй Ю. Семянякі «Расцвітай, Беларусь» была выканана арыя Наталлі з оперы «У буру» Ц. Хрэннікава. З вялікім пачуццём, вельмі выразна быў выкананы гэты твор. Кантыленнае спяванне і выпуклае слова праўдзіва перадалі настрой разгубленасці Наталлі. Аркестр акампаніраваў спявачцы таксама мякка і пранікнёна. Пасля такога сур'ёзнага твору зусім не да месца быў старадаўні раманс В. Пасхалава «Ты не пытайся». У апошні час цікавасць да старадаўніх рамансаў вельмі ўзрасла. Аднак раманс «Ты не пытайся» — не лепшы ўзор такой музыкі, да таго ж гутарка ў ім вядзецца ад мужчынскай асобы. Між іншым, я праціўнік выканання жанчынамі твораў з тэкстамі «ад мужчын» і наадварот.

**Мабыць, спявачка была абмежавама магчымасцямі аркестра (мала аркестровак), але, відаць лепш праспяваць менш, ды лепш. І яшчэ адну параду хочацца даць спявачцы: наўрад ці мае сэнс спяваць ёй творы ў мецца-сапранавых танальнасцях, таму што ў ніжнім рэгістры яе голас усё ж не гучыць так, як трэба. Асабліва гэта было прыкметна ў рускай народнай песні «Над палямі ды над чыстымі».**

Прыгожага тэмбру голас мае А. Рудкоўскі. Сваё выступленне ён пачаў з даволі цяжкай у вакальных адносінах кавацінны Уладзіміра Ігаравіча з оперы «Князь Ігар» А. Барадзіна. Калі дараваць невялікія тэмпавыя разыходжанні з аркестрам, твор быў выкананы добра. Свабоднае валоданне голасам кампенсавала ўсё яшчэ скаваную манеру сцэнічных паводзін спевака. Другую песню Леўкі з оперы «Майская ноч» М. Рымскага-Корсакава і «Уздоўж па вуліцы мяцеліца мяце» А. Варламава Рудкоўскі выканаў, можа быць, нават празмерна стрымана, без асаблівага бляску.

**У канцэрце прымаў удзел і яшчэ адзін саліст, аб якім мы не ўпамянулі раней, — гэта мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, прафесар І. Жыновіч. Ён выступіў у канцэрце не толькі як дырыжор, але і як саліст-цымбаліст. У яго выкананні прагучалі «Дзве рускія народныя песні» ў апрацоўцы Я. Ціноцкага.**

Народны аркестр БССР у гэтым канцэрце яшчэ раз паказаў свае вялікія магчымасці як у рэпертуарных даляглядах, так і ў выканаўчым майстэрстве.

**Л. ІВАШКОЎ,**
**старшы выкладчык Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

# *ПАД ПАЛЬЦАМІ ЧАРАДЗЕЯ*

Нядаўна нам давялося пабыць на вельмі змястоўным і цікавым сімфанічным канцэрце ў зале філармоніі. Выступаў аркестр пад кіраўніцтвам дыпламанта Усесаюзнага конкурсу Юрыя Яфімава. Саліравала заслужаная артыстка РСФСР Бэла Давідовіч.

Зварот вядучага музычнага калектыву філармоніі да твораў І. Баха (Брандэнбургскі канцэрт № 3), В. Моцарта (Сімфонія № 36) і І. Стравінскага (Актэт для духавых інструментаў) абяцаў хвалюючыя перажыванні меламанам. Слухачы былі захоплены хараством гучання твораў.

Праўда, Брандэнбургскі канцэрт Баха ў выкананні аркестра часамі не меў той ступені свабоды, якая дазваляла б перадаць аўтарскую ўсхваляванасць.

Больш удала прагучаў Моцарт. Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР выканаў Трыццаць шостую сімфонію вельмі натуральна і жыва, захаваўшы ўсе адценні і нюансы вобразнай мовы кампазітара. Дакладнае адчуванне рытмічнага багацця партытуры прадэманстраваў Ю. Яфімаў. Музыка, як кажуць, «дыхала» то роўна і лёгка, то ўсхвалявана і ўзнёсла. Выканаўцы тонка адчулі «пульс» моцартаўскіх маналогаў і ўнутраную сабранасць твора.

«Актэт» І. Стравінскага — твор надзвычай складаны для выканаўцаў. Хоць іх колькасць абмежаваная (усяго восем), партытура прадугледжвае дырыжора. Ад яго волі і разумення твора залежыць і наша ўспрыняцце гэтай музыкі. Трэба сказаць, што пры першым выкананні «Актэта» І. Стравінскага ў Мінску найбольш удала прагучала трэцяя частка — фінал. Гэта вялікая фуга, пры выкананні якой праявілася бліскучае майстэрства фагатыстаў Г. Васільева і Д. Арцёменкі.

Добры канцэрт быў упрыгожаны выступленнем піяністкі Б. Давідовіч. Яна выконвала фартэпіянны канцэрт Д. Гершвіна. Вострыя, сінкапіраваныя рытмы, блюзавыя тэмы, сакавітыя гармоніі — усё гэта, характэрнае для вядомага кампазітара наогул, як і арганічнае спалучэнне ў ім прынцыпаў сімфанізму з джазавымі элементамі, ажыло пад пальцамі тонкага інтэрпрэтатара-выканаўцы. Піяністка валодае тэхнікай віртуозна, ёй уласцівы і эмацыянальнае суладдзе з настроем і атмасферай тых споведзяў і вобразаў, што створаны кампазітарам. Аркестр і Ю. Яфімаў выступалі сапраўднымі творчымі партнёрамі салісткі.

**А. УЛАДЗІМІРАЎ.**



Мінск. Вуліца імя Ванеева.

Фотахроніка БЕЛТА.

# МІНСКУ ПРЫГАЖЭЦЬ!

Ю. ГРЫГОР'ЕЎ,
намеснік старшыні праўлення Саюза архітэктараў Беларусі

Я ЗАЎСЁДЫ з хваляваннем гляджу на здымкі, якія сталі гістарычнымі — Мінск у першыя дні пасля вызвалення! Руіны, абгарэлыя сцены, кучы каменя, бетону, жалеза... Велізарная праца і самаадданасць былі патрэбны для таго, каб аднавіць горад.

У той нялёгкі час нашы архітэктары і інжынеры, вельмі загружаныя штодзённай работай над праблемай забеспячэння людзей жыллём (многія мінчане яшчэ жылі ў зямлянках і бараках), разумелі, што тое, што яны ствараюць, перажыве пакаленні. Яны правільна і своечасова заклалі заніраванне новых буйных прамысловых прадпрыемстваў, якія з'явіліся галоўным фактарам утварэння горада. Ім трэба сказаць дзякуй за шырокі, прасторны Ленінскі праспект, за плошчы і скверы, якія ўпрыгожылі наш горад. Разам з беларускімі дойлідамі актыўны ўдзел у распрацоўцы многіх праектаў прымалі відныя савецкія архітэктары І. Лангбард, М. Парусцікаў, В. Рубаненка і інш.

Рост насельніцтва патрабаваў новых жылых плошчаў. Неабходна аб'ектыўна глядзець на першапрычыну з'яўлення аднатыпных жылых будынкаў: трэба было хутчэй перасяляць людзей з жылля без выгод у добраўпарадкаваныя кватэры, але мы яшчэ не былі дастаткова багатыя. Натуральна, тыя велізарныя задачы па вырашэнню жыллёвай праблемы можна было выканаць толькі пры ўмове пераходу будаўніцтва на сучасныя індустрыяльныя рэйкі, захоўваючы найстражэйшую эканомію. У той час архітэктары аказаліся непадрыхтаванымі да такога пераходу, з недаверам глядзелі на перспектывы развіцця буйназборнага домабудаўніцтва і аказаліся на нейкі перыяд у ар'ергардзе будаўнічай індустрыі, якая імкліва развівалася. У сваю чаргу развіццё буйнапанельнага домабудаўніцтва без актыўнага ўдзелу архітэктараў адмоўна адбілася на эстэтычным баку зборных дамоў. Гэта быў час ломкі старых паняццяў аб прыгажосці, функцый, канструкцыях і эканоміцы. Па сутнасці, нашы архітэктары і будаўнікі перавучваліся на хаду. У тыя гады выраслі новыя вялікія мікрараёны, у асноўным, на ўскраінах горада.

У 1966 годзе жылы фонд сталіцы быў у 5 разоў больш даваеннага. У гэты ж час склаўся агульнагарадскі цэнтр Мінска ў выглядзе сістэмы вялікіх плошчаў —Леніна, Цэнтральнай і Перамогі, злучаных галоўнай гарадской магістраллю, якая з'яўляецца і галоўнай кампазіцыйнай воссю горада. Былі пабудаваны буйныя грамадскія памяшканні, якія ўтвараюць сучасныя ансамблі і ў значнай ступені вызначаюць архітэктурнае аблічча сталіцы: Палац спорту, будынак гарсавета, палацы культуры камвольнага камбіната і трактарнага завода, кінатэатры «Партызан» і «Піянер», адміністрацыйныя будынкі і інстытуты.

У першыя пасляваенныя гады быў закладзены і ў далейшым развіваўся зялёны дыяметр Мінска ўздоўж ракі Свіслач.

Імкненне правільна і своечасова вырашыць увесь складаны комплекс функцыянальных, эканамічных і эстэтычных пытанняў будаўніцтва горада прадвызначыла распрацоўку новага генеральнага плана развіцця і рэканструкцыі сталіцы.

Горад па новаму генеральнаму плану дзеліцца на буйныя жылыя комплексы са сваімі грамадска-гандлёвымі цэнтрамі і галоўнымі вуліцамі. За гэтыя гады многае ўжо ажыццёўлена ў натуры. Буйныя жылыя раёны «Зялёны Луг», «Чыжоўка», «Ракаўская шаша», «Усход», «Серабранка» і інш. наглядна сведчаць аб вялікай школе, якую прайшлі нашы праекціроўшчыкі і будаўнікі, аб тым вопыце, які яны атрымалі за гэты час. Параўнайце першыя жылыя панельныя дамы ў раёне вуліцы Кнорына з дамамі на Ракаўскай шашы або на вуліцы Ракасоўскага, у Чыжоўцы або на «Усходзе». Вядома, і ў вырашэнні планіроўкі кватэр і архітэктурнага аблічча будынкаў і па якасці іх будаўніцтва мы ўжо далёка пайшлі наперад. Але гэтага мала. Усе бачаць, што раёны масавага жыллёвага будаўніцтва яшчэ недастаткова выразныя. З імклівым развіццём індустрыі будаўнічых матэрыялаў стварыліся аб'ектыўныя ўмовы для таго, каб будаваць не толькі больш, але і лепш. Сёння вялікі атрад таленавітых архітэктараў і канструктараў разам з будаўнічымі арганізацыямі напружана працуе над вырашэннем перспектыўных задач па ўдасканаленню жылога дома і яго архітэктуры.

Вопыт нашых суседзяў—літоўскіх горадабудаўнікоў наглядна гаворыць аб тым, што без перспектыўнага і эксперыментальнага праектавання, без комплекснага выканання ў натуры жылой забудовы, культурна-бытавога абслугоўвання і добраўпарадкавання ў поўнай адпаведнасці з праектам нельга дабіцца станоўчых вынікаў.

Я хацеў бы падкрэсліць, што менавіта комплекснасць і закончанасць у натуры ўсяго таго, што закладзена праектам, літаральна да апошняга кусціка і газона пры высокай якасці выканання работ абумоўліваюць высокую ацэнку архітэктуры нашых суседзяў з рэспублік Прыбалтыкі. Архітэктары, якія распрацоўваюць нашы жылыя раёны, не менш таленавітыя (я пераконаны ў гэтым), але не хапае нам настойлівасці, каб давесці справу да канца. Вядома, нам усяляк «дапамагаюць» і тыя, хто ажыццяўляе ў натуры нашы задумы. Але да гэтага часу няма ў Мінску ніводнага (!) закончанага комплексна мікрараёна, дзе ўсё было б выканана ў адпаведнасці з праектам.

Колькі сказана прамоў і напісана артыкулаў аб дрэннай якасці або і зусім адсутнасці добраўпарадкавання ў новых раёнах. На кожным кроку сустракаюцца грубыя адхіленні ад праекта. Часам на архітэктурных выстаўках, разглядаючы фатаграфіі нашых новых жылых масіваў, я проста шкадую фатографаў. Ім даводзіцца папрацаваць, каб не трапілі ў кадр недаробкі будаўнікоў.

Адсутнасць комплекснасці забудовы і вельмі няякаснае выкананне добраўпарадкавання—прычыны незадаволенасці архітэктурай новых жылых раёнаў. Тут неабходна якасць і яшчэ раз якасць.

Сёння ўжо ажыццяўляецца ў натуры адна з галоўных задач горадабудаўніцтва на бліжэйшыя гады — рэканструкцыя і забудова асноўных магістралей горада, якія звязваюць функцыянальна і кампазіцыйна новыя жылыя раёны з цэнтрам. Ужо забудаваны ўчасткі па Партызанскім праспекце, вуліцы Маякоўскага, Ленінскім праспекце, у раёне «Усход», вуліцы Я. Коласа, Ракаўскай шашы. Не пазнаць і вуліц В. Харужай, Паркавай магістралі, Чкалава, Рэспубліканскай, Горкага, Я. Купалы і іншых.

Новыя грамадскія будынкі, узведзеныя за апошнія гады, сведчаць аб творчай сталасці нашых архітэктараў. Выставачны павільён ВДНГ, гасцініцы «Юбілейная» і «Турыст», плавальны басейн, рэстаран «Журавінка» і інш. арганічна ўліліся ў ансамблі плошчаў і вуліц і ў вялікай ступені вызначаюць архітэктурны твар сталіцы. Новыя будынкі інстытутаў, бальніц, інтэрнатаў. А школы? Тут вось нам і няма чым пахваліцца.

Неабходна даўно ўжо забараніць узвядзенне непрыгожых, дрэнна спланаваных будынкаў школ. Але няма новых добрых праектаў. Толькі нядаўна, нарэшце, аб'яўлены конкурс на праекты школ, а калі яны з'явяцца?

Вялікі горад патрабуе шырока развітай сістэмы бытавога і гандлёвага абслугоўвання. За апошнія гады змяніліся інтэр'еры многіх нашых магазінаў, сталовых, кафэ, атэлье і рэстаранаў. З'явіліся новыя, выкананыя з добрым густам.

Але ў той жа час ёсць і трывожны сімптом — нахіл у бок мяшчанскага ўпрыгожвання, якое дорага каштуе, за лік багацця прыкладнога мастацтва. Пачалі расці, як грыбы пасля дажджу, стэрэатыпы і штампы. Атэлье ж — гэта не клуб і не палац, і дрэнную архітэктуру не прыкрыеш каванай разной брамай, пастаўленай замест зручных дзвярэй, а адсутнасць добрых пашывачных матэрыялаў не заменіш нават самай дарагою чаканкай па медзі. Інтэр'ер сучаснага магазіна — гэта перш за ўсё рэклама тавару з добра арганізаванай тэхналогіяй продажу.

Калі нашы магазіны і атэлье «перанасычаны» творамі мастацтва, то скверы і паркі горада яўна адчуваюць эстэтычны голад. На жаль, паркі засмечаныя нізкапробнымі малымі формамі архітэктуры, а рэканструкцыя Цэнтральнага сквера па віне Упраўлення камунальнай гаспадаркі і добраўпарадкавання гарвыканкома не даведзена да канца. Прыемнае выключэнне — парк імя Я. Купалы. Створаны рукамі мінчан, ён пасля рэканструкцыі ў сувязі са збудаваннем помніка паэту стаў адным з любімых месц мінчан і гасцей сталіцы.

Велізарныя работы ў апошнія гады праведзены па добраўпарадкаванню і ачыстцы Заслаўскага вадасховішча. Створана новае выдатнае па сваіх прыродных ландшафтных даных вадасховішча Вяча. Але і тут яшчэ работы для архітэктараў непачаты край.

Наша архітэктура знаходзіцца цяпер на крутым павароце. У будаўніцтве наступных гадоў галоўнай задачай будзе рэканструкцыя Паркавай магістралі, Цэнтральнай плошчы, плошчы імя Леніна, Нямігі і інш. Сёння гэтыя аб'екты яшчэ ў макетах і на лістах ватмана. Мінскія архітэктары, якія працуюць над рэканструкцыяй і будаўніцтвам нашай сталіцы, за апошні час правялі вялікую работу, развіваючы прагрэсіўныя прынцыпы савецкага горадабудаўніцтва.

ЦК КПБ, улічваючы значнасць работ па рэканструкцыі цэнтральнай часткі Мінска, своечасова адзначыў і ўказаў у спецыяльнай пастанове на памылкі і недахопы па праектаванню і забудове новага дыяметра горада. Гэта важная пастанова з'яўляецца адпраўным дакументам, які вызначае задачы і высокую адказнасць за іх ажыццяўленне. Вырашэнне гэтых задач патрабуе вялікіх аб'яднаных намаганняў дойлідаў, інжынераў-праекціроўшчыкаў, будаўнікоў, работнікаў прамысловасці будматэрыялаў —усіх, хто закліканы аддаць свае веды і талент для будаўніцтва нашага горада.



Добра вядомы ў Рэчыцкім раёне самадзейны калектыў Глыбокскага сельскага дома культуры. Неаднаразова артысты былі ўдзельнікамі абласных аглядаў. Паспяхова выступіў нядаўна калектыў на вялікім святочным канцэрце, які адбыўся ў Гомелі. Сельскія артысты паказалі этнаграфічную карціну «Беларускае вяселле».

Фота Ч. Мезіна. (БЕЛТА).

# ПЕСНЯ НАД АЗЯРНІЦАМІ

У ВОСЕМ гадзін раніцы над Азярніцамі — зорнае неба. Дзеці, высыпаўшы з аўтобуса, шумлівай чародкай бягуць да школы.

— Дзе жыве Канстанцін Макарэвіч? — пытаюся ў іх.

— Канстанцін Аляксеевіч? Ды вунь ён!—паказваюць школьнікі на невысокага чалавека, які клапочана кудысь спяшаецца. У руках яго ёмісты стос паперы.

— Вязу ў раённы аддзел культуры справаздачу аб рабоце клуба за год, — тлумачыць Канстанцін Аляксеевіч, павітаўшыся. — Амаль усю ноч сядзеў. Пакуль кожны вечар апішаш — як прайшоў, якія формы работы выкарыстаны. А цяпер шукаю машыну—можа падвязе маю тэхніку ў Слонім. Трэба адрамантаваць радыёлу. Але калі вы спецыяльна прыехалі да нас, то зойдзем у клуб.

У цесным кабінеціку загадчыка — стол, шафа і невялікая грубка. Канстанцін Аляксеевіч укінуў у яе крыху дроў і пачаў расказваць пра работу універсітэта культуры, які штомесяц збірае вялікую сялянскую аўдыторыю. Ёсць тут і агітбрыгада...

Азярніцкі клуб — адзін з лепшых у раёне, — гаварылі мне ў Гродна. — Ён носіць званне клуба выдатнай работы, і загадчыку яго ёсць аб чым расказаць. І сапраўды, расказвае Канстанцін Аляксеевіч цікава, з запалам. І ўсё-такі адчуваецца: не гэта самае галоўнае. Вось калі зайшла гаворка аб славутым некалі Азярніцкім хоры, твар Макарэвіча адразу нібы пасвятлеў. І нездарма — столькі гадоў аддадзена гэтаму хору! Ды што гадоў! Хор быў для яго нібы доўгачаканае, выпакутаванае дзіця...

Жыццёвы шлях Канстанціна Аляксеевіча вызначыўся нібыта адразу. Агратэхнічная школа дала яму прафесію, і ён сумленна спасцігаў таямніцы зямлі. Але выспявала ў душы іншае. Уладна клікаў вялізны свет музыкі...

У іх сям'і музыка была ў пашане. Бацька, які быў добрым спеваком у царкоўным хоры, часта браў з сабой двух сваіх сыноў. Старэйшы тады вучыўся іграць на скрыпцы, малодшы, Канстанцін, пачынаў спяваць. Пазней, у час вучобы у гімназіі, ён вывучаў асновы музыкі. А тады — проста хадзіў, слухаў, заміраючы, мясцовых спевакоў.

— Няма інструмента лепшага за чалавечы голас, — пераканана сцвярджае Макарэвіч. — Яму ніякае суправаджэнне не патрэбна. Я, бывала, вазьму адзін камертон і па ім дам спевакам танальнасць. І ўсё. А як пачнуць спяваць — аж слёзы на вочы просяцца!

Дасюль помніць Канстанцін Аляксеевіч голас аднаго з вучняў Шаляпіна, які некалі спяваў у Быціне. Васемнаццаць гадоў назад пачуў неяк яшчэ адзін прыгожы голас. Гэта спяваў Генадзь Бялайц, кінамеханік. І тады падумаў Канстанцін Аляксеевіч: тут павінны знайсціся яшчэ такія спевакі, трэба толькі добра пашукаць. Ён хадзіў па вёсцы, прыслухоўваўся да песень, заходзіў на вячоркі. Які журботны, прыгожы голас у Галіны Чэйбук! А Зіна Мукасей, а Павел Жыровіч, а Іван Шуляк як спяваюць! І ўжо чулася, як уступаюць у спаборніцтва, а потым зліваюцца у адным песенным рэчышчы то звонкія, то ціхія, то бурлівыя ручаі — галасы спевакоў. Доўга думаў Канстанцін Аляксеевіч, нарэшце рашыўся. Пайшоў у праўленне калгаса:

— Хачу хор наладзіць.

Адразу дапамаглі сабраць людзей. Калі праводзіў першыя заняткі, у вёсцы пасмейваліся з удзельнікаў: от, артысты знайшліся! Але першыя ж выступленні — і Азярніцкі калгасны хор перамог у раёне, а потым у вобласці! Зразумелі людзі — не забаўкі, сапраўднае мастацтва нараджаецца ў іх на вачах.

На заняткі прыходзілі ахвотна. Праўда, з жанчынамі было цяжэй: прыйдзе Зіна з двума дзецьмі на спеўку, а следам — муж са сваркай... І Генадзь, запявала, з капрызамі, як прымадонна якая. Часам заўпарціцца: не буду выступаць дый годзе! Тады ўвесь хор упрошвае: «Генік, калі ласка!» Але затое як выйдзе ён на сцэну, як грымне басам — у зале дыхаць баяцца. Такі ж голас быў у Лёні Валодася, вучня школы. Цяпер ён у Ленінградзе, у оперным. І хоць гэта адзіны з выхаванцаў Макарэвіча, які выйшаў на вялікую сцэну, з поўным правам можна гаварыць аб таленце яго кіраўніка, музыканта-самавука, які гэтак жа самастойна навучыўся і кіраваць хорам.

Канстанцін Аляксеевіч многае ўзяў ад Валынчыка, вядомага хормайстра, які ведаў яго бацьку і не раз наязджаў у гасцінную сям'ю Макарэвічаў, каб адпачыць, пагаварыць аб музыцы. Дарэчы, і ў тым, як ён дырыжыруе хорам, ёсць нешта ад Валынчыка: пяшчотнасць, далікатнасць рухаў, нібы калыша ён нешта вельмі дарагое, кволае. Увачавідкі бачыш, як нараджаецца, расце, шырыцца песня...

Цяпер Азярніцкі хор перажывае перыяд абнаўлення. Ветэраны — хто паехаў адсюль, хто ўжо не можа хадзіць на рэпетыцыі. Вучні старэйшых класаў, якія складаюць асноўную колькасць удзельнікаў, яшчэ не авалодалі майстэрствам спеваў. Першы раз у гэтым годзе хор не заняў прызавога месца. Гэта, а яшчэ тое, што энтузіязм, з якім раней падтрымлівалі хор, цяпер паступова знік, моцна турбуе загадчыка клуба.

— У калгасе не хапае людзей, — расказвае ён. — Таму кожная рэпетыцыя — праблема. Няма кім замяніць людзей у час выездаў. Але каб старшыня калгаса хоць крыху турбаваўся пра клуб, пра хор, было б крыху лягчэй. Ранейшы старшыня, бывала, сам прыйдзе на рэпетыцыю і людзей за сабой прывядзе. Ды і дырэктар школы дапамагаў. Цяпер жа абодва абыякава адносяцца да маіх клопатаў. А хіба гэта толькі мой клопат?

Можа, самому Макарэвічу ужо надакучыла збіраць людзей, выпрошваць транспарт, праводзіць рэпетыцыі? Ды не. Васемнаццаць гадоў не згарае ў ім любоў да спеваў. З-за хору кінуў ранейшую работу, больш высокі заробак. Вучыў людзей, не шкадуючы сябе.

— Яшчэ калі ён быў аграномам, — гавораць пра яго людзі, — ходзіць, бывала, па полі і не вытрымае; возьме камертон і слухае нешта...

— Такіх спецыялістаў яшчэ трэба пашукаць, — гэта ўжо ў праўленні калгаса. Тут пра Макарэвіча гавораць з захапленнем, хоць увогуле пра хор і клубныя справы — з вялікай неахвотай.

Дзе ні бывае Канстанцін Аляксеевіч — у Гродна, Мінску, Слоніме — усюды думае пра свой хор: дзе адшукаць новыя песні, што падыдзе для яго салістаў.

Граматы, дыпломы Міністэрства культуры БССР, ЦК ЛКСМБ, рэдакцыі «Сельскай газеты», раённыя і абласныя ўзнагароды хору і яму асабіста Макарэвіч, як самае дарагое, захоўвае ў шафе.

Азярніцы прачынаюцца. На вуліцы — рыпенне колаў, птушыныя спевы, жаночыя галасы. За загуменнямі звініць лёд пад канькамі школьнікаў, што коўзаюцца на рэчцы. Неба сіняе, высокае, яснай чырванню палыхае ўсход. Прыгожа... Адсюль прыязджала ў Гродна песня ў такой сугучнасці галасоў, што зачароўвала самых патрабавальных слухачоў. Верыцца, што прыедзе яна ізноў...

**В. ІПАТАВА.**

# КЛЮЧЫ ДА СЭРЦАЎ

**Ж**ЫЦЦЕ — мудрая кніга. Новы дзень — новая старонка, поўная нечаканасцей і падзей. Цікавая кніга жыцця і ў бібліятэкара Настассі Васільеўны Зубчонак. Вось яна ходзіць заклапочаная сярод стэлажоў, разглядае кнігі, ставіць іх—кожную на сваё месца. І цяпер спакайней на душы ў гаспадыні гэтай установы. Яна зрабіла нямала для таго, каб папоўніць колькасць кніжнага фонду, стварыць у бібліятэцы атмасферу ўтульнасці.

А чытачоў у бібліятэцы—каля тысячы чалавек. Кожная сям'я хлебаробаў карыстаецца яе паслугамі. Яны прыходзяць сюды ў выхадныя дні, пасля работы. Чытаюць свежыя газеты, часопісы. Настасся Васільеўна ведае густ кожнага наведвальніка, характары людзей, раіць, які твор узяць у наступны раз.

Сябруюць людзі з кнігамі, якія сталі часцінкай іх жыцця, пастаяннымі спадарожнікамі, духоўнай патрэбнасцю. Бібліятэкай карыстаюцца не толькі дарослыя, але і школьнікі. З імі ў Настассі Васільеўны асаблівыя адносіны і сяброўства. Дзеці ёсць дзеці. Ім патрэбны прачулы клопат, увага.

Школьнікі і найпершыя памочнікі, дарадцы бібліятэкара. Пётр Рассека, вучань дзевятага класа Пагосцкай сярэдняй школы, загадвае перасоўнай бібліятэкай у вёсцы Лісітнік. А дзесяцікласнік Валерый Несцяровіч дастаўляе кнігі ў Хватаўку. Яны абменьваюць свае маленькія бібліятэчкі адзін раз у месяц. А выбраць неабходную літаратуру дапамагае ім загадчыца.

— Такім чынам, мы значна расшырылі сферу абслугоўвання насельніцтва кнігамі, — дзеліцца сваім вопытам Настасся Васільеўна. — Далёка ісці да нас пажылым, не заўсёды выпадае прыбегчы за некалькі кіламетраў і моладзі. Дамовілася са сваімі памочнікамі, яны ахвотна згадзіліся. І прыносяць радасць сваім бацькам, суседзям і аднавяскоўцам. Добрым сродкам з'яўляецца індывідуальная гутарка з чытачамі, пастаяннымі маімі сябрамі. Возьмем для прыкладу такі выпадак. Юзэфа Хрэнава — пенсіянерка. Часта прыходзіць да мяне, каб абмяняць кнігі. Пачала ёй аднойчы расказваць пра кнігу Петруся Броўкі «Калі зліваюцца рэкі». Расказала, як людзі трох брацкіх рэспублік разам будавалі электрастанцыю, адзінай дружнай сям'ёю шчыравалі, каб у хатах была электрычнасць. Бачу, загарэлася жанчына. «А ці можна пачытаць гэтую кніжку?»—папрасіла на развітанне яна. «Чаму ж не, калі ласка. Вось яна—вазьміце». Нядаўна яна прачытала «Серадзібор» Піліпа Пестрака, «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля. Часта прыходзяць у бібліятэку камбайнер Іван Жукоўскі, пастух Васіль Бандарчык. Усіх іх не пералічыш.

Вядома, канферэнцыі чытачоў маюць больш плённы вынік. Тут адной мне цяжка было б справіцца. Найпершай маёй памагатай з'яўляецца настаўніца Тамара Цыбульская. Рыхтуем чарговую канферэнцыю чытачоў. Ужо абмяркавалі план, разгледзелі яго на савеце бібліятэкі, вызначылі, хто павінен задаць тон гутарцы, пачаць размову. Гэта для пачатку. Пасля ж чытачы самі бяруць слова. Варта толькі запаліць іх, разварушыць душу.

Актыўнымі ўдзельнікамі канферэнцый з'яўляюцца настаўнікі Ларыса Гарошка, Мікалай Міхалёў, Георгій Невядомскі...

Настасся Васільеўна вядзе вялікую агітацыйна-масавую работу. Прыгожа, змястоўна афарміла тэматычныя паліцы «У дапамогу палітычнай самаадукацыі», «Рэлігія — перажытак мінулага», «Агразаатэхнічны куток», «Для вас, жанчыны». Прыцягваюць увагу стэнды «Жыццё і дзейнасць У. І. Леніна», «Іх імёны — бессмяротныя», «Саўгас «Камунар» у дзевятай пяцігодцы».

Са змястоўных запісаў пазнаем, што раней на тэрыторыі цэнтральнай сядзібы саўгаса «Камунар» былі царква, карчма, сінагога, крама. Людзі жылі—«з плеч ды ў печ». На ўсю вёску мелі адны боты. Абуваліся больш за ўсё ў лапці. Боты пазычалі сусед суседу, каб схадзіць у царкву, пастаяць пад вянцом. Уладарыў жа ўсімі навакольнымі землямі граф Патоцкі, які прыязджаў сюды толькі на паляванне.

У новым аблічча паўстае сённяшняе жыццё. Дзеці хлебаробаў вучацца ў мясцовай дзесяцігодцы. У вёсцы ёсць свая бальніца, паштовае аддзяленне, ашчадная каса, дзіцячыя сады, шэсць магазінаў, камбінат бытавога абслугоўвання, сталовая, грамадская лазня. Узведзены прасторны цагляны будынак сельскага Савета. Каля яго стаіць помнік ахвярам Айчыннай вайны.

Людзі жывуць у светлых, прасторных дамах. А завітай да іх у кватэры —не адрозніш ад гарадскіх. Амаль у кожным доме — тэлевізар, пральная машына, матацыкл, у некаторых — легкавыя машыны.

Настасся Васільеўна часта бывае сярод жывёлаводаў, дапамагае ім афармляць наглядную агітацыю ў чырвоным кутку. Не абміне яна даярак, пастухоў, пагутарыць з імі, расказжа пра свежыя навіны.

Пагосцкай сельскай бібліятэцы прысвоена званне «Бібліятэкі выдатнай работы». А Настасся Васільеўна ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны». Што ж, узнагарода заслужаная. І атрымала яе жанчына за шчырую працу.

**І. МАРКЕВІЧ.**

Бярэзінскі раён.

# «БЯРОЗЫ, Я Ў ПАЛОНЕ Ў ВАС...»



*Летась у снежні ў сафійскіх кнігарнях з'явіліся аддзелы з шыльдай: «Кнігі да 50-годдзя ўтварэння СССР». І на відным месцы сярод многіх навінак савецкай і балгарскай літаратуры была новая кніга вершаў нашага добрага друга, выдатнага папулярызатара беларускай літаратуры, балгарскага пісьменніка Стэфана Паптонева «Бярозы, я ў палоне ў вас!».*

*Гэта не зусім звычайная кніжка. Пачынаецца яна з пяці вершаў, напісаных у выніку паездак аўтара ў розныя краіны. «Пісьмо з Варшавы», «Смяецца Хісака Нагата», «Веліч», «В'етнамскае сяло Сангмі», «Нервы» — усе гэтыя вершы прасякнуты страснай публіцыстычнай накіраванасцю супраць мілітарысцкіх сіл, якія імкнуцца да новай сусветнай вайны і гадамі лютавалі ў Індакітаі.*

*А потым, пасля невялічкага ўступу, які С. Паптонеў назваў «Пераможцы», змешчаны трыццаць вершаў аўтара, напісаныя ў выніку яго неаднаразовых наведванняў нашай рэспублікі. Трыццаць вершаў, прысвечаных Беларусі, — такая кніга аднаго аўтара выходзіць увогуле ўпершыню за мяжой.*

*Мінск і Хатынь, Брэст і Орша, Сож і Нёман, — вось паэтычная «геаграфія» Стэфана Паптонева. Паэт не проста расказвае пра свае ўражанні ад паездкі па Беларусі. Дзе б ён ні быў — усё яму нагадвае пра тыя цяжкія страты і разбурэнні, якія прынесла нашаму народу апошняя вайна. «Пятля тугая мяне хапае за горла, — піша аўтар у «Незакончаным вершы», напісаным у час роздуму над вядомым усім здымкам: фашысты ў акупіраваным Мінску ў цэнтры горада вешаюць партызанаў і падпольшчыкаў, —і верш незакончаным застаецца». Так, баліць сэрца і ў паэта, і ў мільёнаў беларусаў пры ўспамінах аб вайне, але тым больш велічным паўстае працоўны подзвіг народа, які з дапамогай усіх братніх народаў Савецкай краіны аднавіў і ўзняў на новыя вышыні гаспадарку і культуру рэспублікі, і гэта думка праходзіць праз многія вершы, змешчаныя ў кнізе «Бярозы, я ў палоне ў вас!».*

*З цікавасцю пазнаёмяцца чытачы з усхваляваным расказам паэта пра подзвіг Ліліі Карастаянавай і пра тое, як ушаноўваецца яе памяць на беларускай зямлі («Імя кветкі»), пра бібліятэкара з Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, які шукаў кнігі, вывезеныя чужынцамі з роднага гарадка («Бібліятэкар»), пра былых абаронцаў Брэсцкай крэпасці, якія штогод збіраюцца, каб успомніць загінуўшых сяброў («Мы, былыя франтавікі»).*

*Нават у пейзажных замалёўках — «У белым палоне», «Холад», «Пяшчота», «Дождж у Брэсце» — мы адчуваем шчырую ўсхваляванасць паэта, якая не пакідае яго на беларускай зямлі.*

*Як і ў папярэдняй кнізе прозы «Беларусь — белая балада», і ў гэтым зборніку гучыць ва ўвесь голас тэма любві да сваёй бацькаўшчыны, сваёй роднай Балгарыі. Нібыта апраўдваючы гэту сваю незвычайную ўзрушанасць і ўсхваляванасць на беларускай зямлі, паэт у апошнім вершы кнігі гаворыць пра «дзіўную балгарскую*



*рысу» — быць душою і сэрцам разам са сваімі сапраўднымі сябрамі і ў дні гора, і ў дні радасці. Ад'язджаючы, Стэфан Паптонеў прызнаецца, што сэрца яго астаецца тут, «дзе спявае рачулка і салавей і дзе не астыў яшчэ попел».*

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

вяртаюцца сны
з вайны
ва ўдовіны хаты,
салаўі будзяць дасвецце,
вечным салдацкім сном
спяць салдаты.

І на іх ляціць,
ляціць
пух таполяў,
ціхі і несціханы.
І нішто болей не баліць —
нават кулявыя раны.

## НЕЗАКОНЧАНЫ ВЕРШ

У мільёнах копій аддрукаваны
здымак гэты
вядомы свету:
экзекуцыя.
        Мінск.
                Вайна.
Цёмны склад.
З нямецкай дакладнасцю кат
вяроўку нацягвае
рукой недрыготкай.
Валодзя зваўся хлапчына.
Нічога даведацца больш
                        немагчыма —
Валодзя...
Вучань дзесяцігодкі.

А дзяўчына!
Ніхто яе не пазнае.
Простай вязкі простая блузка,
Косы распушчаны...
Беларуска...
З часіны тае
ўсе пытаюць, шукаюць адказу
                        ў музеі,
у сэрцах,
архівах шукаецца страта.
Усе чакаюць званка без надзеі —
але маўчыць тэлефон вінавата.

Пятля тугая
мяне хапае
за горла.
Верш — незавершаны.
Словы сякуцца.
Мне горка.
Да смерці горка —
працягваецца экзекуцыя.

## МЫ, БЫЛЫЯ ФРАНТАВІКІ

Выжылі.
Перамаглі і ўцалелі.

Плавіліся камяні
праслаўленай цытадэлі,
мы стаялі,
стаяла Брэсцкая крэпасць.

Гарэлі
лясы і стэпы.

Згарэлі
дзеці і нівы рыжыя.
Мы выжылі.
Грудзі ордэнамі сагрэты.
Гісторыкі пра нас пішуць,
славяць нас спевакі і паэты.

Але мы,
франтавікі былыя,
глыбокай старасці не дачакаем.
То ўспамін адгукнецца,
то рана цяжкая.
То боль апячэ старая
па другу—пад танкам яшчэ
                        дагарае.
То куля злая
дагоніць нас — даўнія цэлі,
куля, выпушчаная ў сорак першым,
І мы раптоўна свой шлях
                        завершым,
ці згаснем марудна ў пасцелі.

Так, кулі ляцяць яшчэ.
Кожная нашы грудзі
шукае.
Мы да глыбокай старасці
не дабудзем —
ісціна крутая.

## РЭХА

На зямлі гэтай,
шчодра крывёю палітай,
кожны чацвёрты
забіты
куляй,
    прыкладам,
        голадам,
            газам, ці бомбай.

Векапомна
сцягоў світанне ўзнята
над рыштаваннямі,
над калонамі ў свята,
        над магіламі брацкімі,
        над балючымі дамавінамі,
        над попелам і ўспамінамі.
Але калі ў кожны дом
збяруцца былыя франтавікі
І ўдовы плачуць цішком,
студэнты з дзёрзкімі грывамі,
з гальштукамі агністымі піянеры, —
усе чакаюць і вераць,
вераць цвёрда:
вернецца іхні «кожны чацвёрты».
А можа
яшчэ не позна!
А можа
яшчэ ўсё рана!
Усе загойваюцца раны —
гэтая рана
баліць несціхана.
        Яна ў іх і ў мяне баліць,
не маючы змен,
адгукаецца, як рэфрэн,
разбіваецца рэхам мёртвым:
«Кожны чацвёрты,
кожны чацвёрты...»

## У БЕЛЫМ ПАЛОНЕ

Бярозы прыхарошыў снег.
Прадоннем белым — цішыня.
Каб знак.
Каб след які прабег.

І аж да маладога дня,
бярозы, я заложнік ваш,
пра ўцёкі і падум няма.
Дыктуе снежны рэпартаж
мне беларуская зіма.

Не зможа фотаапарат
запомніць снегавы пейзаж.
Бярозы, я заложнік ваш.
Маўчанне слухаю прысад.

Пераклаў з балгарскай
Рыгор БАРАДУЛІН.







У КАНЦЭРТНАЙ ЗАЛЕ

*Фотаздымкі Ул. КРУКА.*

